НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 14 (899) 8 красавіка 2015 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Хто будзе дармаедам?

Аляксандр Лукашэнка ўсё ж падпісаў дэкрэт «аб дармаедах». «НН» паспрабавала разабрацца, хто такія беларускія дармаеды і што ім пагражае.

Старонка 3

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН




# Дзе лепш жывецца: у Беларусі ці ў Расіі?

Карэспандэнты «НН» праехалі па памежных гарадах і спыталі пра гэта ў мясцовых жыхароў. Старонка 5.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

## Насарог для султана




Старонка 14

## Сяменчанка. Інтэрв'ю



Старонка 12

# «Сакрэт даўгалецця? Нічога не раблю»

Барысу Кіту — 105 гадоў.

Апошнія чатыры дзесяцігоддзі вядомы беларус жыве ў Франкфурце-на-Майне.

«Будуць іншыя святкаваць, а не я. Чакаю, што хутка памру, і ніякіх планаў не маю», — кажа Барыс Уладзіміравіч пра тое, як сустрэне свой чарговы дзень нараджэння.

Кіт прыехаў на пенсіі ў Германію выкладаць матэматыку для салдатаў на амерыканскіх вайсковых базах. А як адпрацаваў дванаццаць гадоў, то тут і асеў. Але застаецца грамадзянінам ЗША.

А перад гэтым удзельнічаў у распрацоўцы першых амерыканскіх касмічных і ракетных сістэм. Ён першым разлічыў прынцыпы выкарыстання вадароду як паліва для касмічных ракет.

Вядомы канструктар ракетна-касмічнай тэхнікі Вернер фон Браўн запускаў ракеты на спірце. Але трэ' было вынайсці нешта мацнейшае. І тады перад Кітом паставілі задачу: зрабіць поўны аналіз вадкага вадароду як магчымага паліва.

У чым сакрэт даўгалецця знанага беларуса? «Нічога не раблю для гэтага. Абсалютна, — сказаў Барыс Кіт. — Выбіраюся гуляць, калі добрае надвор'е».



## Хроніка жыцця Барыса Кіта

У гутарках з Васілём Быкавым, запісаных у 2000—2001, слынны навуковец дзеліцца ўспамінамі са свайго жыцця.

**Найцікавейшая частка майго жыцця — гэта жыццё ў Беларусі**. У Пецярбургу жыць далей было немагчыма з прычыны спачатку Лютаўскай рэвалюцыі, а пасля кастрычніцкага перавароту. Але хутка пачаўся страшэнны голад, пракарміцца было немагчыма, таму мае бацькі вырашылі паехаць дахаты, на вёску ў Беларусь. Спачатку мяне адвезлі да крэўных, да маёй цёткі, у вёску Сапатніца, што праз пятнаццаць кіламетраў ад Карэлічаў. У вёсцы таксама быў голад, страшэнны, безумоўна, выкліканы вайной. На жаль, лепш не было. Даваўлялася на першых часах есці крапіву і капаць гнілую бульбу на панскіх палях.

**Пазней мы пераехалі з вёскі Сапатніцы ў Карэлічы, у маленькі дом.** Вялікага дома цяжка было пабудаваць, але нейкую хатку мой бацька збудаваў. На жаль, была бедная такая хатка, драўляная падлогі мы ніколі не мелі, жылі на зямлі, без падлогі. Бацька меў 1 гектар зямлі, і яму ўвесь час даводзілася хадзіць у панскі маёнтак на заробкі. Я спачатку вучыўся ў Карэлічах — у польскай пачатковай школе.

**Беларуская вёска тых часоў заўсёды была патрыятычна настроена на беларускасць.** Дзякуючы ёй мы мелі родную мову, якую пазней саветы, калі прыйшлі, сталі вынішчаць. Мае сябры, школьнікі, змагаліся супраць апалячання. Цэнтрам беларускасці былі беларускія гімназіі. Мы таксама дапамагалі палітычнай дзейнасці грамадства.

**Напачатку Польшча была дэмакратычная.** А пасля таго, як Пілсудскі зрабіў пераварот, у Польшчы ўсталёўвалася дыктатура, распачалося знішчэнне беларускага этнасу.

**Мы, вучні гімназіі, ездзілі па вёсках і закладалі гурткі.** Я сам заклаў гурток у Карэлічах, дзе майго бацьку абралі на старшыню. Уся вёска сабралася ў бацькавай хаце і вырашыла заснаваць гурток. Мой бацька быў інтэлігентны чалавек, прыехаў з Пецярбурга. Але, на жаль, Беларуская сялянска-работніцкая Грамада існавала нядоўга.

**Камуністы мяне вабілі да сябе ўвесь час.** Але што мяне ад іх ратавала? У нас быў дырэктар Цеханоўскі, беларускі нацыяналіст, дык ён узгадоўваў нас беларускімі патрыётамі, заснаваў беларускі гурток і ўсё агітаваў працаваць толькі на беларускую нацыянальную справу. І тым нас ратаваў.

**У маладосці ўсе мы былі надта ліберальныя.** Як некалі Чэрчыль сказаў: хто да 30 гадоў не быў ліберальны, то ён сэрца не меў, а хто пасля 30 не зрабіўся кансерватарам, то ён галавы не меў. Але мы ўвесь час былі перадусім беларускія патрыёты. Усе 10 год, як я настаўнічаў, я праводзіў беларускасць. Нават у класе па матэматыцы чытаў беларускія вершы, каб захапіць вучняў. Бо каб захапіць матэматыкай, трэба нешта асаблівае рабіць, і я лекцыі пачынаў з вершаў. Чытаў Ільяшэвіча, Хмару, Танка, Арсенневу.

**У Польшчы было восем беларускіх гімназій.** Найбольш дзейныя: Радашкаўская, Клецкая, Навагрудская і Віленская. У 34-м годзе наша навагрудская была ўжо зачыненая. Яны зачыняліся, бо польскія ўлады хацелі асіміляваць Заходнюю Беларусь, якую яны называлі «Крэсы Усходнія». Але беларусы рабілі сваё. Але тое было вельмі цяжка, бо польскія ўлады змагаліся процў нас. З другога боку, дужа перашкаджалі камуністычныя ўплывы з Усходняй Беларусі, якія давалі ўладам падставу зачыняць гімназіі.

**Я быў рэпрэсаваны польскімі ўладамі, сядзеў у розных турмах** — за Грамаду ў Навагрудку, на Лукішках за справу Таварыства беларускай школы. На Лукішках сядзеў разам з Шырмам, які з Хворастам быў у суседняй камеры.

**Або вось лёс выдатнага беларускага пісьменніка і драматурга Аляхновіча,** які прабыў шмат год на Салаўках. Яшчэ да вайны яго выменялі на Браніслава Тарашкевіча. Тады Аляхновіч прыехаў у Вільню, напісаў славутую кнігу «У кіпцюрох ГПУ», якая разышлася па свеце ў дзесяці ці болей мовах.

**Аднойчы, як я ехаў да свае хаты ў Лебедзеве, мяне арыштавалі і пасадзілі ў турму.** 30 дзён я сядзеў у Глыбокім. Мяне абвінавачвалі, што я нібыта маю сувязь з партызанамі, што я англа-амерыканскі шпіён і г. д. Умовы ў турме былі страшэнныя — на дварэ сцюжа, а ў склепе стаяла адна печка, якая заўсёды капціла. Я накрываўся кажухом, каб зберагчы вочы. Кожную ноч чакаў смерці. Нас было там чалавек 30, дык кожную ноч расстрэльвалі чалавек 25, на наступны дзень зноў нагоняць і зноў бальшыню расстраляюць уначы. І так цягам месяца. Мне шчасціла заставацца ў ліку тых пяці.

**У Амерыку я прыехаў адным з самых першых.** Спярша тыдні два мы мусілі жыць у гатэлі, у Нью-Ёрку. Трэба было падумаць, што рабіць далей. Я ведаў, што нашыя беларусы ўжо некалі прыязджалі сюды і недзе сяліліся. Найбольш у штатах Нью-Ёрк і Нью-Джэрсі. Непадалёк быў гарадок Саўт-Рывэр — «паўднёвая рака» па-беларуску, там жылі старыя эмігранты. Я туды і паехаў. І знайшоў там беларусаў нават з дзявочым прозвішчам маёй жонкі Корсак. Але працу я дастаў у суседнім горадзе Нью-Брансвіку, на вялікай фармацэўтычнай фірме. Пасля я самавукам авалодаў ангельскай, што ўвогуле мне давалася няцяжка, бо я добра ведаў нямецкую і французскую.

**У Каліфорніі я не меў крэўных ды і знаёмых таксама.** Хіба што ў адной сям'і мог нядоўга начаваць. І я шукаў працу. З працай, як заўжды, было дужа цяжка. Тады запісаўся чорнарабочым на фабрыку тэлевізіі. Пасля прыйшло паведамленне, што мяне прынялі ў адну хімічную лабараторыю хімікам. Хімічная лабараторыя доктара Ховарда ў Лос-Анджэлесе, праз некалькі крокаў ад самога Галівуда. Аднак я папрацаваў там толькі пару месяцаў. Пасля мяне прыняла іншая, багацейшая, фармацэўтычная фірма.

**У Каліфорніі я спаткаў найвыдатнейшых вучоных Амерыкі,** працаваў з доктарам Джонам Брэквалам. Гэта быў геніяльны матэматык, якога клікалі для кансультацый у розныя аддзелы маёй фірмы. Дык ён на вырашэнне цяжкіх пытанняў па матэматыцы заўсёды запрашаў мяне. То быў найшчаслівейшы перыяд майго жыцця...

**У 1972 я выйшаў на пенсію з дзяржаўнай працы ў Вашынгтоне.** Апошнім часам я там працаваў у міністэрствах абароны, камунікацыі, камерцыі і транспарту. Ва ўсіх гэтых міністэрствах мы, матэматыкі, рабілі адну справу — развівалі новыя метады падняцця эфектыўнасці адміністрацыйнай дзейнасці.

**Пасля выхаду на пенсію я выкладаў матэматыку ў Мэрылэндскім універсітэце, стаў поўным прафесарам.** Неўзабаве атрымаў прапанову паехаць у Еўропу. У Нямеччыну я прыехаў і пачаў выкладаць матэматыку, пражываючы ў Франкфурце-на-Майне, дзе знаходжуся аж да сёння.

**Аднойчы ў Франкфурце мне патрэбна была перакласці некаторыя дакументы на нямецкую мову,** і я зайшоў да адной перакладчыцы, якая паходзіла з Вільні. І яна мяне пазнаёміла з Тамарай. Яна нарадзілася ў Кіеве. Тады я быў яшчэ даволі малады і жвавы, і ў нас з Тамарай пачалося цеснае знаёмства. У нас з ёй знайшлося шмат супольных інтарэсаў. Мяне захапіла яе інтэлігентнасць, любоў да мастацтва, яна пераўкасна грае на раялі, няблага спявае, а ў маладыя гады была балерынай. Тое ўсё разам дапамагло мне жыць у Франкфурце. Гэтак мы разам жывём аж 30 гадоў, хоць жывём у розных кватэрах. Яна мая спадарожніца жыцця.

### Сціסла

**Стаўка па дэпазітах — 40%**

Беларускія банкі працягваюць апускаць стаўкі па дэпазітах у нацыянальнай валюце. Актульная прыступка — 40% гадавых. Максімальныя стаўкі па валютных дэпазітах тым часам складаюць 6,5%—7%.

**Цэны зноў свабодныя**

Цяпер прадаўцы зноў могуць выстаўляць адвольныя цэны. Раней існавалі абмежаванні на рост цэн у параўнанні з тымі, што дзейнічалі па стане на 18 снежня 2014 года.

**Шэйман зоймецца мясакамбінатамі**

Аляксандр Лукашэнка падтрымаў прапанову Віктара Шэймана аб стварэнні ў складзе Кіраўніцтву справамі прэзідэнта шэрага новых прадпрыемстваў, якія будуць займацца вырабам і перапрацоўкай мяса.

**Грэцыя прагне кампенсацыі за Другую сусветную**

Улады Грэцыі патрабуюць ад Германіі 279 мільярдаў еўра за нацысцкую акупацыю падчас Другой сусветнай вайны. Назіральнікі тлумачаць цяперашнія фінансавыя прэтэнзіі левацэнтрысцкага ўрада Грэцыі набліжэннем тэрміну велізарных плацяжоў па крэдытах.

**У Данецкай вобласці паранены баец атрада «Пагоня»**

Пры выкананні задання ў Данецкай вобласці раненне атрымаў баец атрада «Пагоня» з пазыўным Кім. Яму ўжо зрабілі аперацыю, пагрозы жыццю няма. Дактары падчас аперацыі вынялі з грудзей байца аскепкі снарада.

ЯМ

### Апытанні на nn.by

**Калі Вы святкуеце Вялікдзень сёлета?**

| | | |
|---|---|---|
| 5 красавіка | 400 | 32% |
| 12 красавіка | 379 | 30% |
| Святкую двойчы | 270 | 22% |
| Зусім не святкую | 198 | 16% |

Прагаласавала 1247 чалавек

### Самае чытанае на nn.by за 1—7 красавіка

1 Прэс-сакратарка Лукашэнкі пракаментавала першакрасавіцкі жарт «Нашай Нівы»
2 Топ-30 беларускіх прадпрымальнікаў, якім не больш за 30 гадоў
3 СТВ выдала за ветэранаў вайны асобаў, якім няма і 70 гадоў
4 Лукашэнка: Без амерыканцаў на Украіне немагчымая ніякая стабільнасць
5 «Усмірыцеля Мінска» Ігара Яўсеева перад выбарамі вяртаюць у сталіцу
6 Аляксандр Лукашэнка завёў афіцыйны Instagram
7 Акупаваць Беларусь у бліжэйшыя гадва заклікае сайт расейскіх шавіністаў
8 Віктар Марціновіч: Краіна на літару «Б»
9 Стала вядома імя новага рэктара ЕГУ
10 Ад Лукашэнкі да Домрачавай: топ-100 самых уплывовых беларусаў

# Хто будзе лічыцца дармаедам, а хто не?

Аляксандр Лукашэнка ўсё ж падпісаў дэкрэт «аб дармаедах».

Дакумент, чуткі пра які хадзілі ўжо даўно, быў прыняты 2 красавіка. «Наша Ніва» паспрабавала разабрацца, хто такія беларускія дармаеды і што ім пагражае.

Людзьмі, якія не ўдзельнічаюць у фінансаванні краіны, але карыстаюцца сацыяльнымі гарантыямі, дзяржава зацікавілася яшчэ некалькі гадоў таму. Колькасць патэнцыйных «дармаедаў» называлася розная, але неадназразова агучвалася лічба ў 400 000 чалавек. Прапановы барацьбы з імі гучалі розныя: зрабіць платным абслугоўванне ў медыцынскіх установах, увесці падатак, прыняць абавязковае дэклараванне даходаў для ўсіх беларусаў. Адным з аргументаў уладаў быў афіцыйны паказчык беспрацоўя, які заўсёды быў сунерніжкім: маўляў, працаўладкавацца ў Беларусі вельмі лёгка, проста не ўсе хочуць.

З цягам часу ідэя барацьбы з дармаедамі толькі замацоўвалася ў галовах чыноўнікаў. Было зразумела, што ў тым ці іншым выглядзе дармаедаў вылучаць у асобную катэгорыю грамадзян, гэта толькі пытанне часу. Што і адбылося 2 красавіка, калі Аляксандр Лукашэнка падпісаў Дэкрэт №3 «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства». Нягледзячы на тое, што дакумент быў падпісаны ў красавіку, дзейнічае ён з 1 студзеня гэтага года.

Ад савецкіх часоў сённяшняя барацьба з дармеадамі адрозніваецца тым, што прымушаць працаваць ніхто нікога не будзе: раз на год заплаці збор — і працягвай лайдачыць. Крымінальная адказнасць беларускім дармаедам таксама не пагражае.

Збор фіксаваны, ён складае 20 базавых велічынь. На сённяшні дзень гэта 3,6 млн рублёў, якія трэба плаціць раз на год. Першы раз «утрыманцы» павінны будуць заплаціць да 15 лістапада наступнага года. Для гэтага ў перыяд з 1 жніўня гэтага года і не пазней за 31 мая 2016 года неабходна паведаміць у падатковы орган па месцы сваёй рэгістрацыі аб няўдзеле ў фінансаванні дзяржаўных расходаў і выплаціць збор не пазней за 1 ліпеня 2016 года. У гэтым выпадку сума збору паменшаецца на 10%.

Таксама калі чалавек працаваў пэўны час і плаціў падаткі, то гэта будзе ўлічвацца, і для такога «ўтрыманца» сума збору зменшыцца.

Тым жа, хто не аплаціць збор самастойна, падатковы орган да 1 кастрычніка 2016 уручыць паведамленне на сплату збору ў тэрмін да 15 лістапада. Калі «дармаед» праігнаруе ўсе патрабаванні дзяржавы і не заплаціць, ён атрымае штраф памерам ад 2 да 4 базавых ці нават адміністрацыйны арышт (да 15 сутак). На сутках «дармаеды» будуць прыцягвацца да выканання грамадска карысных работ. Праўда, пасля арышту плаціць збор ужо будзе не трэба.

У катэгорыю «ўтрыманцаў» трапляюць тыя, хто не плаціць падаткі з даходаў ці плаціць іх за тэрмін, меншы за 183 дні на год. Да таго ж, гэта тычыцца не толькі беларусаў, але і замежнікаў, якія маюць дазвол на пастаяннае пражыванне ў нашай краіне, і таксама асобаў без грамадзянства. Адпаведна, каб не трапіць пад дзеянне дэкрэта, трэба афіцыйна адпрацаваць больш за 183 дні, без розніцы, на поўную стаўку ці нават на чвэрць яе.

Дзеянне дэкрэта не распаўсюджваецца на дзяцей, пенсіянераў, інвалідаў і недзеяздольных, вайскоўцаў (і рэзервістаў падчас збораў), адвакатаў і натарыусаў, фермераў, манахаў і святароў, паэтаў, музыкаў і мастакоў, якія ўваходзяць у творчыя саюзы, уладальнікаў аграэкасядзібаў, афіцыйных беспрацоўных, студэнтаў (толькі дзённай формы навучання), звяволеных, сезонных рабочых, якія адпрацавалі вызначаны перыяд. Не лічацца ўтрыманцамі і рамеснікі, але зарэгістравацца зараз у якасці рамесніка і пазбегнуць выплаты збору не атрымаецца, бо падатак за такую дзейнасць у гэтым годзе мусіў быць аплочаны ў снежні 2014.

Не павінны плаціць збор і бацькі, і маці, якія выхоўваюць дзіця да 7 гадоў, траіх і больш дзяцей або дзіця-інваліда. Калі чалавек жыве з уласнай гаспадаркі, ён таксама не трапіць пад аплату збору, калі прынясе адпаведную даведку ў падатковую. Таксама, калі чалавек не працуе (а, напрыклад, афіцыйна здае кватэру), але плаціць падаходны падатак, які складае больш за 20 базавых, дзеяннне дэкрэта на яго не распаўсюджваецца, як і на тых, хто фактычна знаходзіўся на тэрыторыі Беларусі менш за 183 каляндарныя дні, калі факт знаходжання за межамі рэспублікі пацверджаны дакументальна.

Але, па вялікім рахунку, новы дэкрэт створыць праблемы не тым, хто зарабляе і не плаціць, а тым, хто працы ўвогуле не мае. Калі ж чалавек мае сякі-такі неафіцыйны даход, яму танней будзе заплаціць раз на год той збор, чым падаходны падатак. Калі падлічыць, то падаткі, якія плаціць сярэдні беларус, амаль у тры разы большыя за суму, якую будуць аддаваць дзяржаве «дармаеды».

Сярэдні заробак у студзені 2015 года паводле дадзеных Белстата склаў 6 023 000 рублёў. Атрымліваецца, што беларус, які зарабляе такую суму штомесяц, аднаго падаходнага падатку за год заплаціць дзяржаве 9 мільёнаў 395 тысяч рублёў. А плюс да таго, яшчэ прадпрыемства ці ён сам плаціць у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва 35%, г.зн. яшчэ каля 25 мільёнаў. Параўнайце з 20 базавымі.

Да таго ж міністр працы і сацыяльнай абароны Беларусі Мар'яна Шчоткіна паабяцала «дармаедам» праблемы з выездам за мяжу — у выпадку, калі яны не будуць выплочваць падатак. Хаця невядома, на каго накіраваныя такія меры. Бо калі чалавек не мае грошай на той падатак, наўрад ці ў яго знойдуцца грошы на замежныя паездкі.

**Улад Швядовіч**



**Як будуць шукаць «дармаедаў»?**

«Ёсць міжведамаснае ўзаемадзеянне, — адзначыла міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна. — Гэтыя пытанні ўжо ўсе адпрацаваныя. Ёсць базы дадзеных. Шляхам накладання пэўных баз дадзеных будуць вылічвацца людзі, якія не ўдзельнічаюць у працоўнай дзейнасці, не зарэгістраваныя як ІП, не рамеснікі, не натарыусы, не вайскоўцы і г.д. І гэтыя адкарэктаваныя спісы потым будуць накіроўвацца ў Міністэрства па падатках і зборах, а яно накіруе іх у свае тэрытарыяльныя органы».

Кожны грамадзянін, па словах Шчоткінай, згодна з Канстытуцыяй абавязаны ўдзельнічаць у фінансаванні дзяржаўных расходаў. Дэкрэт вызначае перыяды, якія залічваюцца як выплата гэтых фінансавых выдаткаў.




**Агітацыйны плакат машэраўскіх часоў (1970), прысвечаны змаганню з дармаедствам у БССР.**

## Замест фізікі + біялогіі — вывучэнне вока

У Фінляндыі ў 2020 годзе адмовяцца ад вучобы па прадметах. Гэтая навіна абляцела свет. Рэвалюцыя ў падыходах да навучання!

Між тым, аказваецца, перадавая беларуская навучальная ўстанова сярэдняй адукацыі, ліцэй БДУ, даўно гэта практыкуе. Праўда, пакуль толькі эксперыментальна.

«Апошні такі занятак быў па вывучэнні чалавечага вока. Выкладчыкі фізікі і біялогіі спалучаюць два свае прадметы», — расказвае намеснік дырэктара па навучальнай рабоце Ліцэя БДУ Віталь Кірыленка.

Фінляндыя вядомая цудоўным узроўнем адукацыі. І вось фіны вырашылі, што метадычна лепш рабіць заняткі не па асобных прадметах, а прысвечаныя тэмам ці падзеям. Цяпер новы тып выкладання пачынаюць тэставаць. Дарэчы, звярніце ўвагу: не знопалу, а праз пяць гадоў, пасля добрай падрыхтоўкі.

У Суомі рэформы падтрымліваюць не ўсе. Настаўнікам, якія ўсё жыццё выкладалі канкрэтны прадмет, цяжка перастроіцца. Цяпер 70% настаўнікаў старэйшых класаў вымушана праходзяць перападрыхтоўку.

«Мы мусім дачакацца вынікаў апрабацыі гэтай формы адукацыі ў Фінляндыі, — мяркуе сп.Кірыленка. — Аднак у любым выпадку такі падыход цікавы. Хоць, на мой погляд, беларуская сістэма адукацыі пакуль сябе апраўдвае, прынамсі ў сувязі з апошнімі зменамі, якія даюць надзею на далейшае развіццё».

Намеснік дырэктара Ліцэя БДУ дапускае максімум варыянт чаргавання заняткаў, як інтэграваных, так і спецыялізаваных.

**Вольга Гарапучык**

## Стала вядома імя новага рэктара ЕГУ

Ім абраны прафесар Дэвід Полік, які часова выконвае абавязкі рэктара.

Яго кандыдатуру 3 красавіка ўхваліў агульны сход заснавальнікаў. Прафесар Дэвід Полік прыехаў у Вільню ў сакавіку 2014 года і працаваў першым прарэктарам і галоўным аперацыйным дырэктарам ВНУ. У кастрычніку ён стаў часовым выканаўцам абавязкаў рэктара ЕГУ. Продкі (бабуля і дзядуля) Поліка — выхадцы з Беларусі, але сам ён не размаўляе ні пабеларуску, ні па-руску. Цяпер ён вывучае рускую мову.

Да прыезду ў Вільню прафесар Полік займаў пасаду прэзідэнта ў чатырох амерыканскіх вышэйшых навучальных установах: школе Чыкагскага інстытута мастацтваў, каледжы Лебанон-Вэлі, Бірмінгемскім паўднёвым каледжы і Дзяржаўным універсітэце Нью-Ёрка (аддзяленне ў Кортландзе), дзе быў выканаўцам абавязкаў прэзідэнта і віцэ-прэзідэнтам па акадэмічных пытаннях. Ён таксама працаваў дэканам факультэта мастацтваў і навук і дацэнтам філасофіі ў Сіэтлскім універсітэце ў Вашынгтоне.



**БелаПАН**

# Замест ідэолага — «заўхоз»

**Нечаканае прызначанне** ў Адміністрацыі прэзідэнта.



Аляксандр Лукашэнка азадачыў многіх, прызначыўшы першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта малавядомага Канстанціна Мартынецкага. Усё ж раней гэтую пасаду займалі даволі яркія асобы ў беларускім істэблішменце. Гэта і Уладзімір Замяталін, і Станіслаў Князеў, і Анатоль Рубінаў, і Наталля Пяткевіч. Да такіх можна аднесці і Аляксандра Радзькова, які пакінуў пасаду ў снежні мінулага года, перайшоўшы ў канцылярыю Лукашэнкі.

Варта заўважыць, што найчасцей першым намеснікам у Адміністрацыі становіцца чалавек, неяк звязаны з ідэалогіяй. Сёння за ідэалогію ў Адміністрацыі адказвае Ігар Бузоўскі. Праўда, ён яшчэ даволі малады.

Што тычыцца Мартынецкага, то гэты чалавек абсалютна непублічны. Немагчыма знайсці ніводнага інтэрв'ю гэтага чыноўніка.

Вядома, што Канстанцін Мартынецкі нарадзіўся ў 1955 годзе на самай поўначы Беларусі — у Гарадку Віцебскай вобласці. Пасля школы працаваў грузчыкам, а потым пайшоў на службу ў войска.

Мартынецкі скончыў Віцебскі тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці (1981). Мяркуючы з біяграфіі — завочна. Бо ў гэты час ён ужо працаваў у кавальскім цэху МАЗа. Адразу па атрыманні вышэйшай адукацыі Мартынецкага забралі малодшым навуковым супрацоўнікам Беларускага навукова-даследчага інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі і тэхніка-эканамічных даследаванняў Дзяржплана БССР.

Была ў біяграфіі Мартынецкага і старонка працы ў кампартыі. Нават болей за тое. Ажно чатыры гады ён быў загадчыкам прамыслова-транспартнага аддзела Маскоўскага раённага камітэта КПБ Мінска. У 31-гадовым узросце Мартынецкі пераходзіць на працу ў Мінгарвыканкам начальнікам упраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва.

Ад часоў незалежнасці Канстанцін Мартынецкі трапляе ў апарат СНД. Да 2000 года ён быў начальнікам адміністрацыйна-гаспадарчага ўпраўлення, кіраўніком справаў Выканаўчага сакратарыята СНД. Калі казаць груба, то такі чалавек выконвае функцыі «заўхоза».

Пасля гэтага Мартынецкі пераходзіць на працу ў апарат Савета міністраў, дзе і прабыў амаль 15 гадоў. Нядоўгі перыяд ён быў кіраўніком сакратарыята прэм'ер-міністра Сяргея Сідорскага.

Урэшце ў 2007 годзе ён быў прызначаны кіраўніком апарата Савета міністраў. Гэта адбылося пасля таго, як папярэдняга кіраўніка апарата, Валерыя Казакевіча, прызначылі старшынёй канцэрна «Белнафтахім».

У студзені 2015-га Канстанціна Мартынецкага на пасадзе кіраўніка апарата Саўміна замяніў былы пасол Беларусі ва Узбекістане Ігар Сокал. Можна было думаць, што Мартынецкі сыдзе на адпачынак, бо яму ўжо 60 гадоў, але якраз у гэты час ён атрымаў прызначэнне на самую высокую пасаду ў сваёй кар'еры.

**Зміцер Панкавец**

# «Усмірыцеля Мінска» Ігара Яўсеева перад выбарамі вяртаюць у сталіцу

2 красавіка Аляксандр Лукашэнка зрабіў кадравую ракіроўку, **памяняўшы месцамі** кіраўнікоў УУС Мінскай і Віцебскай абласцей.




Генерал-маёр Віктар Сянько цяпер будзе начальнікам упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама. А генерал-маёр Ігар Яўсееў будзе займаць гэткую ж пасаду, але пры Мінскім аблвыканкаме.

Яўсееву 47 гадоў. Ён нарадзіўся ў мястэчку Рось Ваўкавыскага раёна. Бацька будучага генерала міліцыі быў будаўніком, а маці — настаўніцай. Хаця сам міліцыянт прызнаваўся, што гадавалі яго бабуля з дзядулем. «Быў распешчаным і слаба падрыхтаваным да жыцця», — так ацэньваў Яўсееў перыяд дзяцінства.

Пасля васьмі класаў пайшоў вучыцца ў Пружанскі сельгастэхнікум. Казаў, што ў той час быў вельмі грамадска актыўным.

### Спецназ ГРУ і ахова Лукашэнкі

У войска Яўсееў трапіў у трэцюю брыгаду спецназа ГРУ ВПС (Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Вайскова-паветраных сілаў), якая дыслакавалася ў той час у ГДР. Элітныя войскі. Развал СССР сустрэў участковым у Пружанскім РАУСе. Працаваў у ахове Лукашэнкі яшчэ ў першыя гады прэзідэнцтва.

### Усмірыцель Плошчаў

Але імя Яўсеева на слыху стала пасля таго, як ён заняў пасаду начальніка міліцыі грамадскай бяспекі Мінгарвыканкама. У непасрэдныя абавязкі Яўсеева ўваходзіла сачэнне за масавымі акцыямі і іх уціхамiраванне (найчасцей шляхам разгону). Не цураўся і сам браць удзел у збіцці, у тым ліку журналістаў. Яўсееў быў адным з галоўных дзейных персанажаў падчас самой Плошчы-2010. Ён хадзіў на перамовы з кандыдатамі ў прэзідэнты. Пасля яе Яўсееў трапіў у спісы неўязных на тэрыторыю Еўрасаюза пад нумарам 84. А вось Лукашэнка за Плошчу даслаў Яўсееву ліст падзякі.

### «Хлопаць можна толькі ветэранам»

Пасля Яўсееў быў значным дзеячам падчас «Стоп — бензіну» і маўклівых акцый пратэсту. Каардынаваў і камандаваў разгонамі менавіта ён. Перад маўклівай акцыяй на Дзень Рэспублікі Яўсееў адзначыў, што апладзіраваць можна толькі ветэранам.

### «Міліцыянер — гэта лад жыцця»

Яўсееў жанаты, мае траіх дзяцей. Кажуць, што фотаздымак сям'і стаіць у яго на працоўным месцы. Лічыць, што «міліцыянер — гэта лад жыцця».

У чэрвені 2013 Яўсеева прызначылі кіраўніком Віцебскага УУС. Прыгоды з журналістамі ў Яўсеева працягваліся і ў Віцебску. Мясцовыя расказваюць, як падчас Дня дэсантніка ў 2013-м Яўсееў «заламаў» фотакарэспандэнта адной дзяржаўнай газеты, які здымаў затрыманні міліцыяй п'яных дэсантнікаў. Праўда, потым гэтага ж журналіста ўзнагароджвалі ў Віцебскім УУС за добрую працу. На гэтым канфлікт быў вычарпаны.

Яўсееў казаў, што Віцебск яму падабаецца, бо ў горадзе няма мінскай мітусні. Часта з'яўляўся ў горадзе разам з жонкай і малой дачкой. Год таму Лукашэнка ўручыў Яўсееву ордэн «За службу Радзіме» III ступені.

**ЗП**

**Русскій мір**

# «Беларусь — гэта праект Аўстра-Венгрыі»

Як бачыць свет **«Нацыянальна-вызваленчы рух»**.

Прадстаўнікі прарасійскага «Нацыянальна-вызваленчага руху» ў Беларусі расказалі «Нашай Ніве» пра свой светапогляд.

**Акупаваць Беларусь у бліжэйшыя год-два заклікае сайт расейскіх шавіністаў**

Расія мусіць «вярнуць як мінімум Украіну і Беларусь» у бліжэйшы час, бо менавіта цяпер склаліся для гэтага спрыяльныя ўмовы, якіх хутка ўжо не будзе, піша галоўны рэдактар самага вялікага і папулярнага сайта расейскіх шавіністаў «Спутнік і Погром» Ягор Прасвірнін.

«Год, максімум два — усё, што засталося для кідка, далей — дзесяцігоддзе эканамічнага хаосу, адчайных рэформаў, палітычнай барацьбы, можа быць, нават грамадзянскай вайны», — адзначае Прасвірнін, чый сайт друкуе рэзка антыбеларускія і антыўкраінскія артыкулы.

**Аляксандр Гелагаеў**

На пытанні адказвалі Уладзімір Рыжанкоў, каардынатар руху, і Юлія Чырва, яго прэс-сакратарка. Цытаты падаюцца без купюр.

«Мы нідзе не зарэгістраваныя. Усё робіцца на грамадскіх пачатках, па-валанцёрску. У Расіі нас 260 тысяч чалавек. У Беларусі мы толькі пачынаем. Актыўных зусім мала.

Мы абапіраемся на праваслаўе. Гэта асноўная рэлігія рускай цывілізацыі, Рускага свету. Але галоўнае, каб чалавек прызнаваў, што ў 1991 годзе адбыўся пераварот, і прызнаваў каланіяльны статус нашай дзяржавы.

Канстытуцыю нам увогуле напісалі ЗША, Ю-Эс-Эйд, я іх так называю — амерыканскае пекла. Гэта маё вынаходніцтва.

На сённяшні дзень усе постсавецкія краіны — калоніі ЗША. Ельцына пасадзілі на пасаду амерыканцы, як і Гарбачова. Але Пуцін ужо самастойны гулец. Тое, што ён узначаліў краіну, — рускі цуд.

У Беларусі мы падтрымліваем Лукашэнку. Яго абраў народ. Дзякуючы яго ўласнай ініцыятыве і ручному кіраванню атрымалася захаваць вытворчасць, бяспеку, стабільнасць, гісторыю, памяць



**Уладзімір Рыжанкоў, прадпрымальнік, каардынатар руху.**

пра Вялікую Айчынную вайну.

Глабальны фонд барацьбы з ВІЧ 5 гадоў распаўсюджвае метадон. ЮНІСЕФ прасоўвае сэксасвету, разбэшчванне непаўналетніх, калі ў дзіцячых садках дзяцей навучаюць рукаблуддзю, усякім вычварэнствам. Пад выглядам барацьбы ў ААН прынялі праграму, калі дзецям з трох гадоў абавязкова вучыцца сэксуальным вычварэнствам!

«Антымайдан» — бутафорыя, якая не ставіць перад сабой канкрэтныя мэты.

80% чыноўнікаў у Расіі працуюць на Захад. У прэзідэнта РФ правоў нашмат менш, чым было ў старшыні Прэзідыума ў СССР. Рэальнай улады ў Пуціна няма.

**Нацыянальна-вызваленчы рух (Национально-освободительное движение)**

грамадскі «патрыятычны» рух, які ўзнік у 2011 годзе ў Расіі. Узначальвае яго Яўгеній Фёдараў, дэпутат Дзяржаўнай думы, Федэральнага сходу РФ чатырох скліканняў, старшыня камітэта па эканамічнай палітыцы і прадпрымальніцтве Дзяржаўнай думы, член Цэнтральнай палітрады «Адзінай Расеі», кандыдат эканамічных навук. «Праславіўся» Фёдараў пасля сваёй заявы аб тым, што вядомаму музыку Віктару Цою пісалі тэксты песень у ЦРУ.

Нацыянальна-вызваленчы рух выступае за «Рускі свет» і традыцыйныя каштоўнасці. Удзельнікі руху вераць, што СССР быў развалены агрэсіўным Захадам, які ўвесь час так ці інакш супрацьстаіць «мірнай славянскай цывілізацыі». Таксама рух падтрымлівае сепаратыстаў Данбаса.

А Мядзведзеў быў кампраміснай фігурай паміж прапуцінскімі сіламі і амерыканцамі. Гэта не да канца пуцінскі праект.

Нам рэкамендавалі далучыцца да БРСМ. Але іх парадак дня з нашым трохі не супадае. І да іх пятая калона таксама пранікла, забарона георгіеўскай стужкі — вось прыклад. Бээрсээмаўцы — абсалютна наіўныя людзі, яны не разумеюць, што адбываецца. У Мінадукацыі ахарактарызавалі БРСМ так: гэта вялікія дзеці.

Мы не будзем далучацца да Расіі, бо мы адна дзяржава. Проста гэтая дзяржава стане іншай, калі не будзе пятай калоны.

Біблія Скарыны была на рускай! Ён сам пісаў: «я — рускі»! Вы гісторыю ведаеце? Украіна і Беларусь — гэта праект Аўстра-Венгрыі, накіраваны на супрацьстаянне Расіі. Штучна стварылі нацыяналізм, штучна стварылі мову.

Разведка МІ-6 і банкіры арганізавалі Кастрычніцкую рэвалюцыю. І гэта цуд, што з'явіўся патрыёт — Сталін, які адмяніў аборты і зладзіў чыстку пятай калоны.

Нават запрыгоньванне сялян пачалося пасля таго, як Пётр I прывёз заходнюю культуру. Да гэтага яно было немагчымым.

Нямцова забілі амерыканцы, каб зладзіць «аранжавы пераварот». І СМІ пастаянна пра гэта казалі, каб людзі выйшлі на вуліцы, але людзей не хапіла.

Ваш рэдактар не прапусціць ні слова з таго, што мы зараз кажам».

**Гутарыў Улад Швядовіч**

Карэспандэнты «НН» праехалі па памежных гарадах і спыталі пра гэта ў **мясцовых жыхароў**.

# Дзе жывецца лепш: у Беларусі ці ў Расіі?

«Крымнаш» разам з падзеннем цэнаў на нафту і санкцыямі Захаду моцна ўдарылі па расійскай эканоміцы. Сёлета ў студзені заробкі «чыстымі» на Смаленшчыне звалiлiся ніжэй за $280. Упершыню ад часоў незалежнасці сярэдні заробак і пенсія ў Беларусі аказаліся вышэйшымі, чым ва ўсходняга суседа.

«Дзе жывецца лепш, у Беларусі ці ў Расіі?» — вырашылі запытацца карэспандэнты «Нашай Нівы» ў жыхароў памежных расійскіх гарадоў.

Наш маршрут — паўкола паміж Клімавічамі і Оршай з заездамі ў расійскія Рослаў і Смаленск.

### Кантроль ёсць, хай і сімвалічны

На трасе паміж Клімавічамі і расійскімі Шумячамі машыну спыняе малады памежнік: «Праверка пашпартоў. Калі ласка, вашыя дакументы».

Расейцы на сваім пасту правяраюць усіх, хто заязджае ў іх краіну, а беларусы на сваім — тое, што знаходзіцца ў багажніках.

Мяжа паміж краінамі сімвалічная. На беларускім баку стаіць металічная крыжападобная канструкцыя, на супрацьлеглым — ярка расфарбаваная арка з праваслаўнымі цыбулінкамі на версе. Раней пад аркай віселі тры званы, але... Метал, які застаецца без нагляду, тут хутка знаходзіць новага гаспадара. Цяпер ад званоў засталіся толькі рознакаляровыя стужачкі.

### Чаму ў Беларусі чыста?

Правінцыйны Рослаў — райцэнтр на 50 тысяч чалавек. «Дык дзе жывецца лепш?» — пытаемся ў мясцовых жыхароў. Пабачыўшы відэакамеру, людзі літаральна адскокваюць убок. У Беларусі звычайна адмаўляецца гутарыць з журналістамі кожны трэцічацвёрты, дый той часцяком просіць прабачэння. А на ўсходзе добра калі пагодзіцца выказаць свае думкі адзін з дзесяці.

«Без Расіі ўсе прападуць: і Беларусь, і Украіна. Расія — гэта мацікарміліца», — кажа немалады мужчына.

«Вядома ж, у Расіі лепш. Гэта большая краіна, і тут больш магчымасцяў. Калі б у Беларусі было лепш, то мы б да вас ехалі ўладкоўвацца на працу, а не вы да нас, як цяпер», — мяркуе маладая пара.

Аднак аптымістычна да сваёй краіны ставяцца не ўсе.

«Дарогі ў Беларусі лепшыя, вёскі лепшыя, чысцiня... Можа, вы так прывучаныя, усё ж менталітэт іншы. Вось так закладзена ў нас: ідзём і смецце кідаем, чаму так? У Беларусі ж не кідаюць», — кажа сталы мужчына.

Маладыя хлопцы крытыкуюць расійскае кіраўніцтва: «Тут улады кепскія. Злодзеі, махляры, карупцыя...»

Але абодва тлумачаць беларускую дагледжанасць пільным кантролем з боку дзяржавы: маўляў, «у вас з гэтым больш строга».

«Няма ў вас такога... э-э-э... срачу», — кажа сталая жанчына, азіраючыся па баках. Смецце ў цэнтральным парку Рослава не прыбіралі ўжо даўно.

У каменнай скульптуры мядзведзя, якая тут жа стаіць, адбітая палова морды. З ледзь ацалелага вока цячэ ярка-чырвоная фарба.

| Прадукт | Расія | Беларусь |
|---|---|---|
| Малако 3%, 1л | 6300 | 8350 |
| Бульба, 1 кг | 6300 | 5800 |
| Яблыкі, 1 кг | 15350 | 13900 |
| Яйкі С-1, 10 шт. | 12950 | 13200 |
| Апельсіны, 1 кг | 12950 | 13900 |
| Бананы, 1 кг | 16400 | 23900 |
| Бройлер, 1 кг | 26700 | 29900 |
| Алей, 1 л | 21300 | 19900 |
| Батон, 0,4 кг | 4600 | 4650 |
| Хлеб, 0,3 кг | 4850 | 5300 |
| Мінтай, 1 кг | 34750 | 37900 |
| Філе мінтая, 1 кг | 51500 | 49900 |
| Мінеральная вада, 1 л | 4900 | 4200 |
| Сок «Добрый» (яблык), 1 л | 18600 | 12950 |
| Цукар, 1 кг | 11800 | 10300 |
| Грэчка, 0,8 кг | 11500 | 13500 |
| «Снікерс супер», 1 шт | 10650 | 9250 |
| Піва, 0,5 л | 8000 | 9500 |


Цэнтральную плошчу Рослава вонкава не адрозніш ад суседніх беларускіх Клімавічаў і Хоцімска.



MAPS.GOOGLE.COM



Хто забраў званы?

### «Я вам напішу чэк»

Наступны прыпынак — у Стадолішчы. Мясцовыя жыхары кажуць, што назва прыдарожнага мястэчка ўтварылася ад «ста далінаў». Навукоўцы ж схіляюцца да звычайнай беларускай «стадолы».

Спыняемся на абед у кавярні «Твіста». Звычайная вясковая кавярня, у якой днём няма ніводнага кліента, а пад вечар збіраецца моладзь на дыскатэку пад люстэркавым шарам. Гатуюць доўга, ежа няснмачная, а ў яешні на зуб трапляе шкарлупіна... «Калі ласка, чэк», — просім у афіцыянткі. «Блін. Ну ладна, напішу вам зараз», — незадаволеная яна. «У сэнсе «напішу»? Дайце звычайны касавы чэк», — не разумеем мы. «А ў нас няма касавага апарата», — тлумачыць афіцыянтка.

У беларускіх вясковых кавярнях таксама бывае, што каса знятая ці апарат знаходзіцца на рамонце, але цымус сітуацыі ў тым, што ў кавярні «Твіста» ў Стадолішчах касавага апарата няма ў прынцыпе.

У інтэрнэце згадка пра гэтую кавярню толькі адна, за 2013 год. Але і ў той гісторыі фігуруе адсутнасць касавага апарата. «Ты разумееш, што ты зараз сапсаваў настрой маім супрацоўнікам, а ім яшчэ суткі працаваць?» — заявіла тады дырэктарка незадаволеным кліентам-замежнікам і папярэдзіла: — А ты не баішся, што я зараз пазваню куды трэба і цябе на трасе з тваімі беларускімі нумарамі будуць спыняць усе мянты, а то і дагоняць ды пераламаюць ногі?»

### Беспакараныя 80 км/г

Прэтэнзіі да занядбаных расійскіх дарог застаюцца актуальнымі ў правінцыі, але чым бліжэй да вялікіх гарадоў, тым пакрыццё лепшае. Апошнія кіламетры паміж Рославам і Смаленскам — раўнюткая чатырохпалосная шаша, хоць і ідзе праз населеныя пункты. Нягледзячы на абмежаванні, аўто не скідваюць хуткасць нават на пешаходных пераходах.

Ва ўсёй Еўропе, клапоцячыся пра здароўе пешаходаў, дазваляюць ехаць у гарадах не хутчэй за 50 км/г, дзе-нідзе не штрафуюць да 60 км/г. У Расіі ж беспакарана можна ездзіць 80 км/г! А штраф за разгон у горадзе да 100 км/г — усяго 125 тысяч беларускіх рублёў у эквіваленце, і ніякай далейшай адказнасці.

У Беларусі ж за такое парушэнне давядзецца заплаціць у 5—15 разоў больш, а пры паўторным ёсць небяспека пазбавіцца пасведчання кіроўцы.


У каменнага мядзведзя адбілі палову морды. З вока цячэ ярка-чырвоная фарба

Чым не сімвал Расіі?

### «Магніт» з «Еўраоптам» зраўняліся

Розніца ў штрафах вялікая, а што з цэнамі? Раней беларускія бабулі штодня прадавалі на рынку ў Смаленску нашыя прадукты. Цяпер плынь прадаўцоў паменела.

Мы параўналі цэны ў дзвюх сетках супермаркетаў, у расійскім «Магніце» і беларускім «Еўраопце» (глядзі табліцу). У сваіх краінах крамы лічацца найбольш эканомнымі.

Як вынікае з табліцы, цэны амаль выраўняліся. Сэнсу ў прадуктовых шоп-турах да суседзяў не засталося.

Што ў Расіі значна танней, дык гэта паліва. Літр 92-га на смаленскіх запраўках каштуе каля 8400 рублёў у пераліку на нашы, салярка і АІ-95 — па 9000 рублёў. Гэта на траціну танней, чым у Беларусі, і гэтым карыстаюцца жыхары памежных рэгіёнаў.

У інтэрнэце працягваюцца дыскусіі, які бензін варта заліваць: 92 ці 95? Што ж, колькі спецыялістаў, столькі і меркаванняў.

Але розніца паміж беларускімі і расійскімі запраўкамі адразу кідаецца ў вочы. Па ацэнках работнікаў нашых АЗС, прыкладна кожны чацвёрты ўласнік бензінавых машын залівае сабе больш дарагі АІ-95. Такую параду дае кіраўніцтва па эксплуатацыі большасці сучасных аўто.

Пад'язджаючы да запраўкі «Раснафты» ў Рослаunion, звяртаеш увагу на доўгую чаргу машын. Мо з дзясятак аўто чакаюць месца ля калонак з 92-м. А па 95-м — ніводнага. Не будзеш жа ліць у старую «Ладу» «элітнае» паліва...

### Што замінае падняцца з калень?

Едзем у Смаленск і слухаем дыск Васі Абломава, які спявае пра суровую расійскую рэчаіснасць: «Россіі подняться с колен мешает одно из колен. Мы рубім его топором, мы ждём перемен», — жартуе ён.

І ўсё ж, што замінае Расіі ўзняцца з калень? Вырашаем даведацца адказ на гэтае пытанне ў жыхароў Смаленска.

«Не піць і не курыць. І яшчэ матам не лаяцца, — раіць малады чалавек. — Расія на каленях, бо грошай ні храна няма. Багатыя толькі некаторыя людзі, якія высока сядзяць».

«Нас прырода адарыла ўсім, а мы чамусьці прагінаемся. Трэба перастаць шукаць ласкі ў Захаду! — даводзіць п'яны пенсіянер, які цяпер стаў героем інтэрнэту. — А то так атрымалася, што мы залежныя ва ўсім, што гэта такое?»

Старэйшае пакаленне бачыць перспектыву ў сельскай гаспадарцы. «Ганьба, што мы моркву ды бульбу з Турцыі прывозім, мы, Расія, якая ўвесь Савецкі Саюз карміла! Гэты год увогуле будзе галодным у Расіі, выжывуць толькі тыя, хто бліжэй да зямлі».

«Трэба пачынаць з чыноўнікаў і іх хабараў», — раіць мужчына. «Мы ніколі не будзем на каленях. Мы ж рускія, мы заўсёды перамагаем», — перабівае яго жонка.

**Ягор Марціновіч, Наста Храловіч, фоты Ірыны Арахоўскай**

# Мільянера Віктара Пракапеню кінулі на Валадарку

Бізнэсмена затрымалі па справе **васьмігадовай даўніны.**

31-гадовы бізнэсмен Віктар Пракапеня нечакана стаў фігурантам крымінальнай справы. Мільянеру пагражае да сямі гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці.

Як выявілася, Пракапеня быў затрыманы яшчэ 18 сакавіка. З таго часу яго трымаюць у следчым ізалятары на Валадарцы.

Што ставяць у віну Пракапеню? «Займаўся прадпрымальніцкай дзейнасцю ў сферы продажу IT-тэхналогій без адпаведнай дзяржаўнай рэгістрацыі як суб'екта гаспадарання», — паведаміў Следчы камітэт. У выніку бізнэсмен нібыта атрымаў прыбытак у памеры $650 тысяч.

Былы партнёр мільянера, Юрый Гурскі, патлумачыў у інтэрв'ю «Камсамольскай праўдзе», што сутнасць прэтэнзій следчых адносіцца да 2006 года.

Пракапеню тады было 23 гады, але ён ужо быў уласнікам бізнэсу. Адзін з ягоных работнікаў падпрацоўваў на баку. Супраць гэтага чалавека з цягам часу завялі крымінальную справу, а цяпер вырашылі арыштаваць яшчэ і Пракапеню. «Віктар ведаў пра гэтую справу, нікуды не хаваўся, хоць у яго быў офіс у Лондане і ён мог з'ехаць, але ён жыў у краіне. Пакуль гэта выглядае так, што ён павінен адказваць за дзеянні свайго падначаленага», — кажа Юрый Гурскі.

Паводле інфармацыі заснавальніка Tut.by Юрыя Зісера, Пракапеню ставяць у віну, што той падначалены дзяліўся з ім сваімі даходамі. «У Пракапені былі мільённыя праекты, займацца дробным рэкетам, вымагаючы хабар ад уласных супрацоўнікаў, яму сэнсу не было», — упэўнены Зісер.

Віктар Пракапеня займае 47-е месца ў рэйтынгу самых паспяховых і ўплывовых бізнэсменаў за 2013 год.

Ён скончыў ЕГУ (спецыяльнасць «веб-дызайн»), калі той яшчэ знаходзіўся ў Мінску, юрыдычны факультэт БДУ, БДУІР (завочна), бізнэс-школу Інстытута прыватызацыі і менеджменту, а пасля яшчэ і Вышэйшую школу бізнэсу Стэнфардскага ўніверсітэта.

Ягоная кампанія Viaden Media ў 2006 занялася распрацоўкай праграм для мабільнікаў. Неўзабаве яна была зарэгістраваная як рэзідэнт Парка высокіх тэхналогій.

Кампанія здабыла папулярнасць праз праграмы ў сферы аховы здароўя. Яны дапамаглі карыстальнікам, якія займаюцца фітнэсам ці качаюцца ў трэнажорных залах. Іншы кірунак дзейнасці — стварэнне анлайн-казіно. У 2011 Пракапеня прадаў кампанію ізраільскаму мільярдэру Тэдзі Сагі. Сума ўгоды не разгалошвалася.

На атрыманыя грошы Пракапеня заснаваў кампанію EXP (Capital). Беларусы сталі распрацоўваць праграмы для фінансавага рынку. Кліентамі кампаніі сталі сусветныя банкі і біржы.

Акрамя таго, бізнэсмен уклаўся ў дэвелаперскі бізнэс, набыўшы аб'екты камерцыйнай нерухомасці ў цэнтры Мінска.



Каб выратаваць калегу, кіраўнікі IT-кампаній падрыхтавалі зварот да Аляксандра Лукашэнкі.

«Раптоўнае зьнікненне Пракапені са зносінаў з яго замежнымі партнёрамі праз арышт па недаказаным яшчэ злачынстве 6-8-гадовай даўніны і агульная рэакцыя IT-супольнасці прывядзе да таго, што ўжо ў бліжэйшыя дні замежныя партнёры многіх беларускіх IT-кампаній могуць замарозіць дзелавыя аперацыі з Беларуссю», — папярэджваюць бізнэсмены і просяць хаця б змяніць Пракапеню меру ўтрымання.

«Урон іміджу краіны ўжо нанесены. Шкада, што ва ўладзе не хапіла мазгоў падумаць пра шматмільённыя наступствы. Не здзіўлюся, калі дзясяткі IT-бізнэсменаў і тысячы праграмістаў сёлета эмігруюць», — каментуе сітуацыю Юрый Зісер.

**Ягор Марціновіч**

# Хто яны, беларускія маладыя мільянеры?

Рэйтынг **перспектыўных прадпрымальнікаў.**

Агенцтва стратэгічнага і эканамічнага развіцця склала рэйтынг перспектыўных прадпрымальнікаў Беларусі, якія развіваюць праекты ў розных індустрыях і ў розных краінах. Многія з іх ужо мільянеры, іншыя пакуль толькі набіраюць абароты. Умовы для ўключэння ў спіс — быць грамадзянамі Беларусі, не старэйшымі за 30 гадоў.

**1. Андрэй Шымановіч**

27-гадовы бізнэсмен, які скончыў прэстыжны Лонданскі ўніверсітэт каралевы Марыі, жыве ў Вялікабрытаніі і займаецца венчурнымі інвестыцыямі. Што гэта значыць?



Шымановіч — сузаснавальнік фонду WeRocks, які мае офісы ў Лондане і амерыканскай Каліфорніі. Разам з партнёрамі ён выбірае перспектыўныя праекты (стартапы) і ўкладае ў іх сродкі фонду. Справа рызыкоўная, бо, па амерыканскай статыстыцы, рэальны прыбытак прыносіць толькі кожны дзясяты стартап.

Венчурныя інвестары таксама дапамагаюць праектам вызначыцца са стратэгіяй развіцця і аптымізаваць выдаткі. Пакуль фонд Шымановіча ўклаўся ў 7 амбіцыйных стартапаў. А цяпер WeRocks заканчвае фарміраванне чарговага венчурнага фонду з аб'ёмам інвестыцый $250 мільёнаў.

**2. Пётр Скаромны**

У 2007 Скаромны заснаваў кампанію Apalon, якая спецыялізавалася на распрацоўцы праграм для гульняў і праграм для мабільных тэлефонаў. У ЗША тым часам быў прэзэнтаваны першы «Айфон» — рэвалюцыйны мабільнік, які змяніў свет.



Скаромны хутка адрэагаваў на папулярнасць «Айфонаў» і пераключыўся на распрацоўку дадаткаў для гэтых статусных тэлефонаў. За час працы Apalon выпусціў больш за 50 праграм, якія ўсталявалі 200 мільёнаў карыстальнікаў па ўсім свеце.

Напрыклад, Speak & Translate дазваляе размаўляць з мабільнікам на 42 мовах свету, а той на хаду перакладае словы на іншыя мовы. Усталяваць такую праграму каштуе $10. Праўда, беларуская мова пакуль даступная толькі для тэкставага, а не галасавога перакладу.

Сярод іншых распрацаваных дадаткаў — калькулятар, праграма для зручнага прагляду часу і прагнозу надвор'я... Гэтыя праграмы таннейшыя, за іх просяць $1—2.

Беларускіх распрацоўшчыкаў заўважылі амерыканцы. Тамтэйшая кампанія летась выкупіла Apalon. Сума ўгоды не раскрываецца.

Скаромнаму 30 гадоў, і ягонае імя добра вядомае ў свеце інфармацыйных тэхналогій.

**3. Антон Ярашук**

29-гадовы праграміст — заснавальнік кампаніі Vizor Interactive, якая распрацоўвае



гульні для мабільнікаў і сацыяльных сетак. Самая папулярная гульня кампаніі — «Зомбі ферма». У прыгоды зомбі, які можа стаць чалавекам, гуляюць 10 мільёнаў чалавек! Сярод іншых гульняў кампаніі «Кландайк: зніклая экспедыцыя» і «Вернасць: рыцары і прынцэсы».

**4. Павел Гільман**

27-гадовы Павел — шматпрофільны бізнэсмен з лонданскай прапіскай. Ён паспяхова кіруе групай кампаній на брытанскім рынку нерухомасці. Яго рыэлтарскае агенцтва Readyflats Ltd асабліва папулярнае сярод рускамоўнага насельніцтва Лондана. Стратэгія развіцця бізнэсу — адкрыццё прадстаўніцтваў ва ўсіх буйных гарадах свету (першым стаў Рым). Таксама група кампаній займаецца рэканструкцыяй і будаўніцтвам жылых шматпавярховых і прыватных дамоў на тэрыторыі Вялікабрытаніі.

Павел актыўна інвестуе ў біятэхналогіі. Адзін з яго актываў — Kaddish Ltd, міжнародная навукова-тэхналагічная кампанія, якая спецыялізуецца на агракансалтынгу і ўзбагачэнні харчовых прадуктаў і кармоў для сельскагаспадарчых жывёл. У 2013 годзе была заснаваная кампанія Stoller Ukraine ў Кіеве, якая аказвае паслугі па індывідуальнай распрацоўцы тэхналогій павелічэння ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур ва Украіне.



Акрамя таго, Павел з'яўляецца заснавальнікам медыя-прадакшн кампаніі Hilberg Limited, а таксама членам апякунскай рады і журы Лігі КВЗ і конкурсу прыгажосці «Міс СССР» у Вялікабрытаніі.

**5. Мікіта Мікада**

28-гадовы беларус цяпер жыве ў Сан-Францыска. Мікіта — сузаснавальнік стартапа PandaDoc і кампаніі Quote Roller.



У 2013 годзе ягоны стартап PandaDoc прыцягнуў $655 тыс. Цяпер PandaDoc знаходзіцца ў фазе імклівага росту. Праграма дазваляе аптымізаваць працу з дакументамі, адна з карысных функцый — выкарыстанне электроннага подпісу.

«Мы выбіралі не краіну — мы выбіралі менавіта Сіліконавую даліну. Гэта Мекка ўсіх IT-кампаній. Асабіста мне тут прасцей вучыцца і знаходзіць тое, што ўжо зрабілі, а не вынаходзіць нанова. Жонка адразу пагадзілася», — казаў Мікіта пасля пераезду разам з камандай і жонкай у Сан-Францыска.

**6. Уладзімір Халязнікаў**

30-гадовы беларус летась стаў гендырэктарам міжнароднага інтэрнэт-холдынга KupiVIP, які знаходзіцца ў Маскве. Раней



Халязнікаў быў аперацыйным дырэктарам гэтай кампаніі.

KupiVIP — гэта элітныя інтэрнэт-крамы, мадэльнае агенцтва і партал аб модзе. Прадстаўніцтвы кампаніі адкрыты ў Лос-Анджэлесе, Берліне, Мілане і Парыжы.

**7. Кірыла Чыкеюк**

28-гадовы Кірыл і яго партнёр Арцём Ставенка ў 2012 годзе заснавалі ў Вялікабрытаніі стартап Kino-mo, які прапануе паслугі па размяшчэнні інавацыйнай рэкламы на колах ровара.



Са сваім праектам хлопцы сталі пераможцамі тэлешоу «Dragons' Den» на BBC, у рамках якога члены журы — буйныя інвестары і бізнэс-анёлы, кантактуюць з маладымі вынаходнікамі. Затым прымаецца рашэнне, ці варта ўкладаць у праекты грошы. Але беларус адмовіўся ад $130 тысяч на карысць самастойнага развіцця.

Нядаўна Кірыла абараніў дысертацыю ў Оксфардскім універсітэце і стаў доктарам навук.

**ЯМ; Агенцтва стратэгічнага і эканамічнага развіцця для probusiness.by**

Поўны спіс 30 прадпрымальнікаў чытайце на NN.by

# Давыдзька: Мы стараемся змякчыць прапагандысцкую рыторыку НТВ

Старшыня Белтэлерадыёкампаніі **даў адказ на зварот** Партыі БНФ.

Сойм партыі заклікаў «разгледзець мэтазгоднасць спынення трансляцыі расейскіх навіновых і інфармацыйна-публіцыстычных праграмаў на каналах АНТ, РТР і НТВ да поўнага ўрэгулявання канфлікту на паўднёвым усходзе Украіны».

Старшыня БНФ Аляксей Янукевіч пераконваў, што расійская прапаганда супярэчыць заканадаўству Беларусі і поглядам Аляксандра Лукашэнкі.

Давыдзька адказаў, што Белтэлерадыёкампанія ад пачатку канфлікту ва Украіне «максімальна карэктна падыходзіць да асвятлення адпаведнай тэматыкі ў інфармацыйных і аналітычных праграмах тэлеканала НТВ».

Больш за тое, старшыня Белтэлерадыёкампаніі запэўніў, што «тэлеканал «НТВ-Беларусь» стараецца максімальна змякчыць прапагандысцкую рыторыку расійскага канала НТВ у частцы так званых спецыяльных выпускаў, журналісцкіх расследаванняў, аналітычных праграм і сюжэтаў, якія могуць спрыяць распальванню міжнацыянальнай варожасці».



Тэлеканал «НТВ-Беларусь», які рэтранслюе расійскі НТВ, уваходзіць у структуру Белтэлерадыёкампаніі.

**ЗП**

# Партыя БНФ падтрымала вылучэнне Таццяны Караткевіч

На пашыраным пасяджэнні палітычнай камісіі Партыі БНФ было прынята рашэнне падтрымаць актывістку кампаніі «Гавары праўду» Таццяну Караткевіч у якасці адзінага кандыдата ад апазіцыйнай кааліцыі «Народны рэферэндум» на выбарах прэзідэнта ў 2015 годзе.

Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў. «У часе палітычнай кампаніі і правядзення перадвыбарчай агітацыі Партыя БНФ будзе канцэнтравацца на пытаннях абароны незалежнасці і рэалізацыі праграмных палажэнняў Беларускага Народнага Фронту», — адзначыў Кастусёў.



**Фотафакт**



# Шалёныя сацыяльныя ліфты «Наварасіі»: з аўтамыйшчыка ў падпалкоўнікі

На старонцы жонкі Матаролы «Укантакце» з'явілася фота, дзе яе муж сядзіць за сталом з афіцэрскімі пагонамі падпалкоўніка і тузінам медалёў на грудзях.

Варта адзначыць, што згодна з артыкулам у «Вікіпедыі», Матаролу 32 гады. Ён родам з Расіі і ў складзе федэральных войскаў браў удзел у чачэнскіх войнах. Пры гэтым ягоная найвышэйшая вайсковая пасада да канфлікту ва Украіне — гэта намеснік камандзіра ўзвода.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Вольга Карач не будзе балатавацца ў прэзідэнты, бо яе «не падтрымае Расія»

З адпаведнай заявай выступіла яе кампанія **«Наш дом»**.

Раней Карач разглядала магчымасць удзелу ў прэзідэнцкай кампаніі. Аднак цяпер кіраўніца кампаніі «Наш дом» прыйшла да высновы, што выбары стануць толькі «тэхнічным момантам» і сур'ёзна да іх людзі ставіцца не будуць.

«Для «Нашага дома» важна гуляць па сваіх правілах і самім фармаваць уласны сцэнар, а не ўдзельнічаць у чужым. Актыўна ўдзельнічаючы ў выбарах, мы гуляем па чужым сцэнары, — гаворыцца ў заяве. — Актыўны ўдзел у выбарах не з'яўляецца адказам ні на адзін выклік, якія стаяць перад беларускай грамадзянскай супольнасцю сёння», — лічыць «Наш дом».

«Наш Дом» заяўляе, што «структура, якая вылучае свайго кандыдата на прэзідэнцкія выбары—2015, павінна даць цвёрдыя гарантыі беларускаму народу, што жыццё людзей не пагоршае пасля таго, як Аляксандр Лукашэнка сыдзе, г.зн. у першую чаргу, не будзе вайны (грамадзянскай або з якой-небудзь краінай), масавага беспрацоўя і абвалу цэн». Пры гэтым, гаворыцца ў заяве, «Наш дом» з усёй адказнасцю ўсведамляе, што мы не можам даць такіх цвёрдых гарантый беларускім грамадзянам на перыяд трансфармацыі Беларусі».



«Мы лічым, што ў гэтых выбарах «Наш дом» можа ўдзельнічаць толькі ў выпадку, калі ён будзе падтрыманы Расеяй», — заявіла Карач у інтэрв'ю радыё «Свабода».

— Цяпер сітуацыя складаецца так, што ў Беларусі можа перамагчы адзін кандыдат, але гэта не Аляксандр Лукашэнка. Гэта кандыдат, якога падтрымае Уладзімір Пуцін», — думае Карач.

«Але я лічу гэтую сітуацыю неймавернай, бо не бачу рацыі, дзеля якой Пуцін падтрымаў бы «Наш дом». Бо ў нас ёсць маральныя каштоўнасці, супрацьлеглыя інтарэсам Расеі.

Таму не лічу лагічным тое, што Расея можа нас падтрымаць. Але тэарэтычна, у выніку «мазгавога штурму» у арганізацыі, мы гэта абмяркоўвалі, што ёсць толькі адна гэтая ўмова», — кажа Карач.

**Сяргей Гезгала**

**Цытата**



**Лукашэнка: Без амерыканцаў ва Украіне немагчымая ніякая стабільнасць**

«Больш за ўсё насцярожвае тое, што да гэтага працэсу адкрыта не былі падключаны Злучаныя Штаты Амерыкі, — заявіў Лукашэнка. — Я лічу, што без амерыканцаў ва Украіне немагчымая ніякая стабільнасць. І сустракаючыся ў апошні час з прадстаўнікамі Злучаных Штатаў Амерыкі, афіцыйнымі прадстаўнікамі, якія у нас бывалі, я настойліва даводзіў да іх гэты пункт гледжання, заяўляючы пра тое, што я не ведаю, чаго хочуць амерыканцы тут, ва Усходняй Еўропе, ва Украіне ў прыватнасці, але калі амерыканцы хочуць, каб тут быў мір і стабільнасць, яны неадкладна павінны далучыцца да гэтага працэсу», — заявіў Лукашэнка ў інтэрв'ю амерыканскаму медыяхолдынгу «Блумберг».

# Пасол ЕС у Расіі: Давайце прызнаем, мы не пойдзем ваяваць і паміраць за Украіну

Вігаўдас Ушацкас кажа, што пастаўкі зброі Украіне былі б **рызыкоўным крокам**, калі мець на ўвазе магчымы адказ з боку Расіі.

У апублікаваным у панядзелак інтэрв'ю літоўскай дзелавой газеце Verslo zinios дыпламат сказаў, што, прымаючы рашэнне пра ваенную падтрымку, асобныя краіны павінны з усёй адказнасцю ўзважыць магчымыя дзеянні Масквы.

«Наколькі я разумею, адміністрацыя ЗША занепакоеная тым, якія будуць наступствы, калі будзе аказаная ваенная дапамога, вайсковая тэхніка, якім можа быць адказ Расіі і як канкрэтна ён выявіцца на тэрыторыі Усходняй Украіны», — сказаў газеце Ушацкас.

«Гэта вельмі сур'ёзныя пытанні, бо рызыка і пагрозы рэальныя», — дадаў былы міністр замежных спраў Літвы.

Літва публічна, аднак без падрабязнасцяў пацвердзіла, што перадала Украіне элементы ўзбраення. Прэзідэнт і прэм'ер-міністр Літвы не раз публічна заклікалі краіны Захаду дапамагчы Кіеву зброяй.

Самая ўплывовая краіна ЕС — Германія — выказваецца супраць паставак зброі. Кіраўнік МЗС Франк-Вальтэр Штайнмаер нядаўна папярэдзіў, што ў выпадку аказання Кіеву дапамогі вайсковымі сродкамі, «канфлікт можа быць пераведзены ў новую фазу» і можа разгарэцца «небяспечная пастаянная эскалацыя паміж Украінай і Расіяй».

Кангрэс ЗША выказваецца за пастаўкі зброі, сцвярджаючы, што гэта дапамога ўраду Украіны «абараніць сваю суверэнную тэрыторыю ад неспраўакаванай і працяглай агрэсіі Расійскай Федэрацыі». Прэзідэнт ЗША Барак Абама пакуль устрымліваецца ад паставак зброі, але не выключае такой магчымасці ў будучыні.

Захад сцвярджае, што Расія пасылае ўзбраенні і вайскоўцаў у дапамогу сепаратыстам, што ваююць на ўсходзе.

Па словах В. Ушацкаса, ЕС павінен падтрымліваць эканамічныя і палітычныя рэформы ва Украіне, стабілізаваць



краіну, але адначасова трэба «быць рэалістамі і шукаць агульныя падыходы, як можна пры дапамозе перамоваў з Расіяй спыніць эскалацыю канфлікту», уключаючы перамовы аб пастаўках зброі.

«Трэба прызнаць, што мы не пойдзем ваяваць і паміраць за Украіну і мы не пойдзем мяняць Расію, бо мы гэтага не зробім», — сказаў дыпламат.

**Delfi.lt**

# Гомельскі Red Pub праводзіць вечарынкі «Рускі дух»

У рэдакцыю «НН» звярнуўся чытач з Гомеля Яўген, які заўважыў, што мясцовы Red Pub 3 красавіка праводзіць вечарыну «Рускі дух».

«Мы робім калектыўны хоп-хэй-лала-лэй на самай душэўнай і роднай дыскатэцы «Рускі дух», — пішацца на старонцы вечарыны ва «Укантакце». — Лекавая вадчэла ў дуэце з гурочкам салёным дадасць усім сілаў і энергіі! Усё будзе па старой традыцыі: дзеўкі — гарачыя, мужыкі — шчодрыя, песні — усім вядомыя».

Высвятляецца, што такія вечарыны ў Гомелі праходзяць ужо не ўпершыню. Папярэдняя прайшла 20 сакавіка. Моладзь фоткалася з шыльдачкай «Рускі дух», а таксама з вялікай матрошкай. Ды-джэі былі ў рускіх нацыянальных строях.

«НН» патэлефанавала арт-дырэктару Red Pub Ніне Серабровай, каб даведацца, у чым сэнс гэтых мерапрыемстваў? Найперш спадарыня Ніна папрасіла размаўляць па-руску, бо яна сама з Расіі і кепска разумее беларускую.

«Так, сапраўды, мы не ўпершыню праводзім такія вечарынкі. Ёсць арганізатары, якія здымаюць у нас памяшканне».

На каго накіраваная вечарына «Рускі дух»: на беларусаў ці расіян? «Мы так глыбока не капаем, — кажа арт-дырэктар установы. — Людзі проста прыходзяць адпачываць, добра бавіць час». Далей размаўляць спн.Ніна адмовілася.




Нагадаем, што ў лістападзе летась мінскі клуб Dozari праводзіў вечарыну «Рускім быць модна», але ў выніку паднятай у прэсе шуміхі арганізатары былі вымушаныя правесці вечарыну «Грандыёзнае нацыянальнае шоу».

**Зміцер Панкавец**

## Фотафакт





**СТВ выдала за ветэранаў вайны асобаў, якім няма і 70 гадоў**

2 красавіка тэлеканал СТВ у праграме «Сталічныя падрабязнасці» паказаў «беларускіх ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны», якім на выгляд дасі ад сілы 60 і ўжо ніяк не больш за 70 гадоў.

Што, вось гэтыя поўныя сілаў людзі нарадзіліся раней за 1926 год? Ім, па-Вашаму, 89 гадоў? Што за анекдот!?

Гэты цырк на дроце — частка вялікай спекуляцыі на геройстве і ахвярах пакалення Васіля Быкава, чым імем, дарэчы, у Мінску дагэтуль не назвалі нават завулачка.

**Даслаў чытач Павел Ржавускі**

# Выйшаў «Беларускі кулінарны сшытак №1»

Гэта кніга **Ларысы Мятлеўскай**, адной з вядучых тэлешоу «Беларуская кухня» на канале «Беларусь-2».

Кніга распачала серыю «Гастранамічная вандроўка па Беларусі». Большасць рэцэптаў у «Сшытку № 1» мае своеасаблівы «пашпарт»: пазначана, ад каго ён запісаны і дзе. Ларыса Мятлеўская сабрала ў кнізе «фамільныя» рэцэпты беларускіх бабуль з Палесся і Мінскай вобласці. Некаторыя рэцэпты ўзятыя аўтаркай з кулінарных кніг XIX ст.

Акрамя рэцэптаў, кніга ўтрымлівае гістарычныя звесткі, парады, як ужываць нагатаванае. Дзякуючы такім адступленням і прыемнаму афармленню, кнігу цікава проста чытаць. Прыгожы, карысны, у цвёрдай вокладцы, на мелаванай паперы, «Беларускі кулінарны сшытак № 1» можа стаць файным падарункам любой гаспадыні, а таксама аматарам беларускай культуры, этнаграфіі, калекцыянерам.

**Алена Ляшкевіч**






# Элан Маск зарабіў мільярд даляраў адным твітам

Заснавальнік Tesla **проста паабяцаў** нешта прадставіць 30 красавіка.

30 сакавіка заснавальнік Tesla Motors (а таксама PayPal і SpaceX) Элан Маск паведаміў у сваім твітары пра анонс нечага — не машыны! — а 8-й вечара таго самага дня.

Ад паведамлення пра анонс «не машыны» акцыі Tesla падскочылі ў цане больш чым на 4% і дагэтуль трымаюцца на новым узроўні ў прыблізна 190 даляраў за акцыю. Такім чынам кампанія Telsa атрымала лішнія 1,2 млрд даляраў капіталізацыі.

Інтэрнэт узяўся гадаць, што можа прадставіць перадавы вытворца электрамабіляў — свае здагадкі карыстальнікі публікуюць з хэштэгам #TeslaNewProductGuesses.

Сярод версій — хатняя батарэя, падобная да батарэй у электрамабілях, электраматацыкл, самалёт на сонечных батарэях, а таксама машына часу альбо касцюм Жалезнага чалавека (мяркуецца, што Элан Маск быў прататыпам Тоні Старка ў серыі фільмаў «Жалезны чалавек»).

**Аляксандр Арсёнаў**

# Не ператварайце Беларусь у краіну пахавальных вянкоў!

Піша **Сяргей Макарэвіч**.



Хто хаця б зрэдчас ездзіць на машыне ці маршрутцы, сустракае ўздоўж дарог пахавальныя вянкі, штучныя кветкі. У некаторых месцах стаяць нават невялікія крыжы, абнесеныя металічнай агароджай, альбо нават гранітныя помнікі. Ездзеш так год за годам па адной дарозе, а гэтыя пахавальныя атрыбуты не знікаюць, а множацца.

Гэта месцы, на якіх у аўтамабільных аварыях нехта загінуў. І родныя ставяць такія знакі.

Але ні разу не бачыў, каб каля іх нехта быў. Канечне, мо раз на год на Радаўніцу ці дзень смерці, сюды прыязджае жанчына, што страціла ў аварыі дзіця. Не больш за тое.

Калі нехта хоча захоўваць памяць пра загінулага на дарозе, гэта можна рабіць у храме (ставіць свечкі, маліцца). Альбо дома, адвёўшы для гэтага куток ці пакой. Можна паставіць вялікі помнік на могілках і плакаць там.

А я, калі сустракаю гэтыя вянкі на дарозе, спачування не адчуваю: чужое гора так не кранае, як сваё.

Прыгадваецца, як чатыры гады таму, 24 сакавіка, уначы ў Мінску на скрыжаванні праспекта Незалежнасці з вуліцай Казлова п'яны кіроўца на «БМВ» урэзаўся ў таксі. З таксі выпаў хлопец-пасажыр, 1991 года нараджэння. І загінуў. На месца смерці прыносілі кветкі, свечкі. Стаяў нават вялікі партрэт. Спачатку складалі ўсё гэта на трамвайным прыпынку. Пасля нехта перанёс да сцяны бліжэйшага будынка. Працягвалася так мо два тыдні — і кветак прыносілі ўсё больш. А пасля камунальнікі, сам быў сведкам, падагналі трактар і ўсё вывезлі, відаць, на сметнік. Месца трагедыі — страшнае месца. А яго, атрымліваецца, ушаноўваюць.

Хаця нібыта павінны такія знакі на дарогах (а часам яны з'яўляюцца ў межах горада ці вёскі) стрымліваць п'яных сядаць за руль, занадта жвавых ганяць па дарогах і проста парушаць правілы дарожнага руху. Але ніхто не здольны назваць нават прыблізную лічбу тых, хто ўратаваўся дзякуючы восьгэтым крыжам на месцах смерцяў. Ці ўратавала гэта каго наогул? Няма такой статыстыкі. Але ёсць статыстыка па колькасці аварый. І хаця яна сведчыць, што колькасць ДТЗ змяншаецца, але іх наступствы не становяцца лягчэйшымі.

Так, у 2014 павялічылася колькасць тых, хто загінуў у аварыях па віне кіроўцаў, якія не мелі правоў. Знізілася колькасць ДТЗ з удзелам дзяцей, але вырасла колькасць дзіцячых смерцяў у аварыях. Зніжаецца колькасць п'яных кіроўцаў. Але гэта можна звязаць не са страхам забіць кагосьці на дарозе. На жаль, не з гэтым. А праз магчымасць пазбавіцца машыны пры паўторнай п'янцы за рулём.

Але самых шустрых кіроўцаў не заўжды нават можна спыніць рублём. А не тое нават каб пазнакай месца *чужой* смерці. Напрыклад, за 23 сакавіка 2015 на дарогах краіны адбылося 209 ДТЗ з матэрыяльнай шкодай. У 5 аварыях загінулі і атрымалі раненні 6 чалавек. А выяўлена 6 000 парушэнняў ПДД. За перавышэнні хуткасці аштрафавалі 1299 кіроўцаў. 764 пешаходы прыцягнуты да адказнасці за парушэнне ПДР. Не надта стрымліваюць парушальнікаў чужыя смерці.

У Балгарыі ёсць традыцыя пасля смерці чалавека некралог разам з фотаздымкам раздрукоўваць і клеіць на веснічак свайго дома, на бліжэйшыя дрэвы. Вісяць яны месяц, год, два. Ведаеш, каго напаткала гора. Можаш зайсці і выказаць словы падтрымкі. Мы, жывыя, павінны памятаць мёртвых. Але не трэба рабіць месца іх гібелі месцам пакланення.

І не ператварайце Беларусь у краіну пахавальных вянкоў!

# Малітва семінарыста Сталіна і праваслаўны маршал Жукаў

**Адыёзная брашура** Жыровіцкага манастыра.

Кніжыца «1945. Победа!..» цяпер распаўсюджваецца праз царкоўныя шапікі ў Гродне. Згодна з версіяй аўтара, у вайне рускія перамаглі дзякуючы навяртанню былога семінарыста Сталіна да веры, вяртанню залатых пагонаў царскай арміі і дазволу вазіць ікону Казанскай Маці Божай на фронт.

Вось толькі некалькі цытатаў:

«...Началась страшная война, в которой враг имел единственную цель: уничтожить Россию, Святую Русь, уничтожить народ России, стереть с лица земли самое понятие — Россия»;

«...Спаситель сказал (Багародзіцы — **Рэд.**): «...Я знаю, как Ты любишь Россию, и ради слов Твоих не оставлю ее. Накажу, но сохраню...»;

«...Спаситель сказал: «Я не оставлю Россию»;

«...Церковь благословила Отечественную войну Русского народа, а Благословение это было утверждено на Небе. От престола Всевышнего и возгорелся дух России!».

Цікава, што не ідзе нават гаворкі пра тое, што перамога належыць і іншым народам. Словаў «савецкі» і «СССР» наогул няма ў брашуры. Роўна як і згадак пра Беларусь, калі не лічыць вершаваны ўступ і пасляслоўе інака Мікалая:

«Русь Святая — пад сонцам —
Ад Эльбы была — да Аляскі...»

Далей — болей. «Вся Россия молилась тогда! Молился и бывший семинарист Иосиф Сталин...» Аказваецца, што і вышэйшы камандуючы склад Чырвонай Арміі выключна праваслаўны: былы царскі генерал Шапашнікаў, «который не скрывал своих религиозных убеждений», сын праваслаўнага святара Васілеўскі, «православный маршал» Жукаў, які перад кожным боем казаў: «С Богом!»...

Напрыклад, узяцце Кёнігсберга, якое каштавала Чырвонай Арміі больш як 50 тысяч ахвяраў, аўтар называе цудам. Маўляў, з'явілася Мадонна ў небе і ва ўсіх немцаў раптам сапсавалася зброя: «... немцы гибли тысячами и тысячами сдавались в плен».

Цікава таксама, што Хрушчоў, архітэктар «адлігі» у СССР, у брашуры крытыкуецца і падаецца нават горшым за Сталіна! Ён «...организовал еще более масштабное и изощренное разрушение Церкви, чем до войны 1941—1945 гг.»




«Жыровіцкая абіцель» — багаслоўскі лісток аднайменнага мужчынскага манастыра, які рэдагуе вядомы інак Мікалай Бембель, у мінулым паэт Зьніч. Пад маркай лістка ўжо выдаваліся скандальныя брашуры. Напрыклад, «Дастаеўскі і Каліноўскі», дзе герой паўстання 1863 называецца ледзьве не сатаністам. Альбо «Уния. Ложное единство» з шалёнай крытыкай грэка-каталіцкай царквы.

**Алесь Кіркевіч, Гродна**

## Заснавальнік «Дазары» Алег Пяткевіч расказаў пра рускую душу, VIP-дранікі і сабаку акіта-іну

«Дазары» — адзін з самых статусных мінскіх **начных клубаў**.

Яго заснавальнік Алег Пяткевіч (ён таксама валодае рэстаранам «Галерэя») расказаў Time City Magazine свае правілы жыцця і вядзення бізнэсу.

«Не магу сказаць, што ішоў да стварэння клуба Dozari мэтанакіравана, доўгія гады ўвасабляючы ў жыццё нейкую ідэю. Не. Усё атрымалася досыць спантанна. Я скончыў вайсковае вучылішча, быў у вайсковай тапаграфіі — сфера, мякка кажучы, далёкая ад забаўляльнага бізнэсу. Проста ў нейкі момант мы ўбачылі, што гораду сапраўды трэба мець клуб для людзей з пэўным узроўнем прыбытку. Мы не рабілі клуб для моладзі, але і не ставілі перад сабой задачу стварэння закрытага клуба для эліты — трэба было ўвасобіць нешта асаблівае. Прыгожае месца, дзе можна добра адпачыць, бо руская душа любіць і ў рэстаране пасядзець, і патанцаваць, сябе паказаць ды на людзей паглядзець *(усміхаецца)*. Стрэліла, як кажуць.



На жаль, у нас часцяком спачатку ствараюць рэстаран, а потым пытаюцца: «Хто будзе шэф-поварам?» Гэта ў корані няправільны падыход. Перавабіць Марка Якета з Масквы ў Мінск каштавала нам немалых намаганняў, але мы змагаліся за гэта, таму што я ведаў: без Марка поспеху не будзе. Ён сапраўды годны шэф-повар. Гэта творца, які ўвесь час эксперыментуе, рухаецца наперад у імкненні давесці свае навыкі да дасканаласці. Да чэмпіянату свету па хакеі ён, напрыклад, ведаць не ведаў, што такое дранікі. І калі ў меню «Галерэі» трэба было ўключыць беларускую страву ад шэфа, Марка літаральна за два дні прыдумаў рэцэпт дранікаў «Мінск-Рым» з сырам Grana Podano і труфелямі. Усе, хто б ні спрабаваў гэты шэдэўр, былі ў шоку — здавалася б: што там гэтыя дранікі прыгатаваць? Марка зрабіў страву пластамі, дадаў прыправы і спецыі, падаў прыгожа — і звыклыя нам дранікі сталі чымсьці асаблівым...

Вольнага часу не так шмат. І ў большай ступені я паглынуты сямейным жыццём — на нейкія захапленні шкада марнаваць каштоўныя гадзіны. Адзінае, у чым не магу сабе адмовіць, — гэта прагулкі з сабакам пароды акіта-іну, падоўгу гуляю з ёй. Бяру сабаку і іду ў лес, стараюся 8—10 км кожны дзень праходзіць. Узімку ўжо 14 гадоў катаюся на сноўбордзе. Вельмі люблю горы, падабаецца гэтая атмасфера асаблівая, паветра...»

**ЯМ**

## Генетыкі: еўрапейцы змянілі колер скуры з чорнага на белы зусім нядаўна

Больш за 30 тысяч гадоў чалавек жыў у Еўропе **і не бялеў**.

Чалавек з'явіўся ў Еўропе 40 тысяч гадоў таму, але набыў сучасны еўрапейскі колер скуры параўнальна нядаўна, паведамляе Science са спасылкай на даклад навукоўцаў на 84-й канферэнцыі Асацыяцыі фізічнай антрапалогіі ЗША.

Яшчэ 8 тысяч гадоў таму еўрапейцы мелі пераважна цёмную скуру і не ўмелі пераварваць малако кароў.

Навукоўцы вызначылі гены, што перажылі наймацнейшы натуральны адбор за апошнія 8 тысяч год. Сярод іх былі і гены, звязаныя з харчаваннем і колерам скуры.



**Фігуркі эпохі неаліту з Бліжняга Усходу.**

Тры гены, што вызначаюць белы колер скуры, маюць складаную гісторыю з'яўлення. Першыя жыхары Еўропы 40 тысяч год таму мелі цёмную скуру, уласцівую цёплым шыротам, адкуль яны прыйшлі.

Нават 8500 год таму паляўнічыя-збіральнікі Іспаніі, Люксембурга і Венгрыі былі цемнаскурымі — адпаведных генаў светлай скуры ў іх не было.

Толькі на поўначы Еўропы чалавек стаў белым хутчэй: яшчэ 7700 год таму на поўдні Швецыі людзі мелі гены, адказныя за белую скуру і нават ген, што адказвае за блакітныя вочы.

Белую скуру чалавек у Еўропе набыў праз недахоп сонечнага святла — белая скура дазваляе паглынаць больш ультрафіялету. А лактоза з малака каровы стала крыніцай «дэфіцытнага» вітаміну D.

**Аляксандр Арсёнаў**

**Кіно**

## Па сыноў у Турцыю

Шукальнік вады
**Жанр:** драма, ваенны
**Рэжысёр:** Расэл Кроў
**У ролях:** Расэл Кроў, Вольга Курыленка, Джай Кортні, Ізабель Лукас, Дэйман Хэрыман, Жаклін МакКензі, Раян Кор, Меган Гэйл, Джэм Йылмаз, Йылмаз Эрдаган
Аўстралія, Турцыя, ЗША, 111 хв.
**Адзнака:** 7,5

1919 год. Аўстралійскі фермер Конар, які спецыялізуецца на пошуку вады і рые калодзежы сваімі рукамі, адпраўляецца ў далёкую Турцыю, каб знайсці сваіх трох сыноў і пахаваць іх на радзіме, пабач з маці. Яны лічацца зніклымі пасля бітвы каля Галіпалі, адной з самых крывавых бойняў Першай сусветнай (часткі кампаніі Антанты 1915—1916 гадоў, накіраванай на выцясненне Асманскай Імперыі з арэны вайны). Не атрымаўшы афіцыйнага дазволу, Конар усё-ткі адпраўляецца ў Галіпалі, каб знайсці месца гібелі сыноў. Ад маёра Хасана ён даведаецца, што яго старэйшы сын Артур, магчыма, яшчэ жывы...

Рэжысёрскі дэбют аскараноснага аўстралійскага акцёра Расэла Кроў («Гульні розуму» (2001), «Гладыятар» (2000)), які летась выканаў галоўную ролю ў стужцы «Ной» Аранофскі, стварыў свой уласны праект. Сюжэт заснаваны на рэальных гістарычных падзеях — сцэнарысты вывучалі ваенную літаратуру, лісты і дзённікі салдат часоў Першай сусветнай. Але фабула выдуманая. Стужка атрымалася дынамічная, у меру драматычная, дэталёвая і яскравая. Супраца з Турцыяй дазволіла паказаць асманскі каларыт і іншы погляд на вайну, што выяўляе асноўную адметнасць фільма.




Каманда праекта і большасць акцёраў — аўстралійскага паходжання, ролі прадстаўнікоў Асманскай Імперыі выканалі турэцкія акцёры. Галоўную ролю выканаў сам Расэл Кроў, вядучую жаночую роль – украінка Вольга Курыленка. У стужцы таксама зняліся ўласныя конь і сабака Кроў, апошняму для здымак нават давялося схуднець.

**Настасся Уласава**

# Трагедыя, якой няма роўных

Пяць гадоў таму пад Смаленскам **разбіўся самалёт** прэзідэнта Польшчы. Загінуў цвет польскай дзяржаўнай эліты.

10 красавіка — чарговыя ўгодкі авіякатастрофы пад Смаленскам. Пяць гадоў таму суседняя з Беларуссю дзяржава страціла частку палітычнай эліты на тэрыторыі другой нашай суседняй дзяржавы. 10 красавіка 2010, у 10.56 паводле мясцовага часу, самалёт Ту-154М ВПС Польшчы разбіўся на ўскраіне Смаленска. Загінулі прэзідэнт Польшчы Лех Качыньскі, яго жонка Марыя, найвышэйшыя ўрадоўцы і вайсковая вярхушка — 96 чалавек.

Злавесна выглядала сімволіка: яны ляцелі на жалобныя ўрачыстасці з нагоды 70-годдзя катынскіх расстрэлаў. Катынь, дзе ў 1939—1940 былі расстраляныя тысячы палякаў, беларусаў, украінцаў з «вызваленых» тэрыторый, — тут жа, недалёка ад Смаленска, у лесе на колішніх дачах НКВД.

Самалёт разбіўся, калі заходзіў на пасадку над смаленскім вайсковым аэрадромам «Паўночны». Паколькі аэрадром вайсковы, ён не быў абсталяваны дакладнымі навігацыйнымі сістэмамі, якія дазвалялі б сядаць на аўтапілоце. Пасадка самалёта такога класа там магчымая была толькі пры спраўных радыёмаяках, якія дапамагаюць пілотам саджаць машыну ўручную, і пры ясным надвор'і з добрай бачнасцю.

Прэзідэнт спазняўся на ўрачыстасць. Польскі ЯК-40, на якім ляцела другая частка дэлегацыі — асобы з суправаджэння, журналісты, грамадскія дзеячы, — прызямліўся на «Паўночным» яшчэ ў 9.16, яшчэ пры добрым надвор'і. Прэзідэнцкі борт затрымаўся, і за гэты час над аэрадромам згусціўся туман. Бачнасць, паводле відавочцаў, складала каля 200 метраў. Гэта нішто пры вялізнай хуткасці самалёта і патрэбе сядаць, спадзеючыся на зрок.

Хто аддаў загад ісці на пасадку? Яснасці ў гэтым пытанні няма. Расійскія эксперты, якія расшыфроўвалі «чорныя скрынкі» ТУ-154М, сцвярджаюць, што ў кабіне пілотаў маглі прысутнічаць пабочныя людзі.

Голас аднаго з іх, паводле неафіцыйных звестак, належаў камандуючаму польскімі ВПС Анджэю Бласіку, голас другога нібыта належаў кіраўніку дыпламатычнага пратаколу МЗС Польшчы Марыюшу Казану. Аднак польскія эксперты адзначалі, што галасы гэтыя настолькі ціхія, што не ўяўляецца магчымым вызначыць, хто дакладна быў у кабіне. Дый ніякіх пагроз або ціску ад іх не сыходзіла: гутарка вялася спакойным роўным тонам.

Праўда, Ту-154М быў вайсковым самалётам, і ўваход пабочных асоб, нават камандуючага, у кабіну да пілотаў забаронены правіламі. Эксперты сыходзяцца на тым, што фатальнае рашэнне сядаць «навобмацак» у тумане прынялі самі пілоты. І да апошніх секунд былі пэўныя, што знаходзяцца вышэй, чым былі насамрэч. Крык дыспетчараў «101 гарызонт!» (загад перастаць зніжацца) прагучаў ужо запозненa: самалёт зачапіў верхавіны дрэваў. Ён меў у баках 19 тонаў паліва — з запасам, каб вярнуцца ў Варшаву. Пасля ўдару аб зямлю яны выбухнулі і разнеслі самалёт, дый усё, што ў ім было, на тысячы кавалкаў.



Расследаванне трагедыі вядзецца дагэтуль. У сакавіку 2015 года Галоўная вайсковая пракуратура Польшчы выставіла абвінавачванні двум дыспетчарам аэрапорта Смаленска ў ненаўмысным давядзенні да авіяцыйнага здарэння. Раней эксперты Міждзяржаўнага авіяцыйнага камітэта (МАК) са штаб-кватэрай у Маскве ўсклалі адказнасць за трагедыю на непрафесійныя дзеянні польскага экіпажа.

У 2011 годзе польскі ўрад публікаваў даклад, згодна з якім за катастрофу нясуць адказнасць малаі дрэнна трэніраваныя польскія пілоты, кепскае надвор'е, а таксама няслушныя і запозненыя каманды, якія давалі экіпажу расійскія дыспетчары. Абсталяванне аэрадрома ў Смаленску прызнана неэфектыўным, неадэкватным, яно не забяспечвала ўмоў для бяспечнай пасадкі паветранага судна.

Многія палякі дагэтуль мяркуюць, што здарэнне было падстроена...

# Пачобут: Калі Расія не перадала рэшткі самалёта, то пра якія добрыя адносіны можна размаўляць?

Пра наступствы і **ўспрыняцце гэтай катастрофы** пад Смаленскам мы пагутарылі з актывістам Саюза палякаў Беларусі Андрэем Пачобутам.

**«Наша Ніва»: Гісторыя не ведае ўмоўнага ладу, але ці маглі б Вы паразважаць, ці развіваліся б падзеі ў нашай частцы Еўропы інакш, каб катастрофы пад Смаленскам не было?**

**Андрэй Пачобут:** Цяжка адказаць на гэтае пытанне... Не думаю, што ў гісторыі Усходняй Еўропы гадоў 2010—2015 нешта радыкальна змянілася б. Магчыма, стратэгічнае супрацоўніцтва ў галіне бяспекі паміж Польшчай, Грузіяй, Украінай, Літвой, Латвіяй і Эстоніяй было б больш інтэнсіўным. Пасля вайны ў Грузіі менавіта на такое супрацоўніцтва краінаў, якія цвяроза ацэньваюць пагрозу з боку Расеі, ставіў Лех Качыньскі. Ягоныя словы, сказаныя ў 2008 годзе ў Тбілісі — «сёння Грузія, заўтра Украіна, паслязаўтра прыбалтыйскія краіны, а там, магчыма, прыйдзе чарга і на маю краіну», — шмат разоў узгадваліся ў кантэксце падзеяў апошняга года. Вайна ва Украіне, акупацыя Расеяй Крыма, а з іншага боку — кволая рэакцыя на гэта з боку Захаду паказалі, што ягоны дыягназ быў рэалістычны, а палітыка рэгіянальнага супрацоўніцтва — стварэнне кааліцыі дзяржаваў, гатовых супольна супрацьстаяць Расеі, — найбольш прагматычнай.

**«НН»: Ці адбілася неяк, на Вашу думку, катастрофа пад Смаленскам на развіцці падзей у Беларусі?**

**АП:** У 2010 годзе Беларусь была адзінай з суседак Польшчы, якая не абвесціла ў знак салідарнасці нацыянальную жалобу. Гэта, дарэчы, было ў часы так званай лібералізацыі адносінаў з Захадам, і, натуральна, такі жэст быў бы на карысць палітыкі, якую ў той момант праводзіў афіцыйны Мінск. І тут усё ўперлася ў Аляксандра Лукашэнку, які, скажам так, дастаткова эмацыйна ставіўся да Польшчы і да Леха Качыньскага і нават у выпадку такой трагедыі не здолеў пераступіць праз свае фобіі.

**«НН»: З якой гістарычнай катастрофай з гісторыі Польшчы (сусветнай гісторыі) можна параўнаць катастрофу пад Смаленскам?**

**АП:** Улічваючы кантэкст гэтай катастрофы — прэзідэнт Польшчы і дзяржаўная эліта краіны загінулі, калі ляцелі аддаць даніну памяці польскім афіцэрам, што былі расстраляныя ў Катыні, — то натуральнай падаецца параўнанне гэтых дзвюх трагедый. Але Катынь 1940 года і Смаленск 2010 года — гэта ўсё ж такі розныя рэчы.

**«НН»: Як змянілася за гады, што мінулі ад трагедыі пад Смаленскам, яе ўспрыманне ў польскім грамадстве?**

**АП:** Само ўспрыманне засталося нязменным. Для палякаў гэта вялікая трагедыя. Іншая справа, што ў польскім грамадстве існуе моцны падзел у справе ацэнкі прычынаў катастрофы. Паводле апошніх даследаванняў грамадскай думкі, 39% палякаў не выключае, што яе прычынай мог быць тэракт. І гэта нягледзячы на тое, што афіцыйнае расследаванне, якое праводзіла Польшча, такую магчымасць выключыла. Колькасць прыхільнікаў такой версіі з цягам часу павялічваецца.

**«НН»: Ці пачатак расейска-ўкраінскай вайны штосьці змяніў у гэтым успрыманні?**

**АП:** Думаю, што так. Расейская вайсковая агрэсія і асабліва хлуслівыя тлумачэнні Уладзіміра Пуціна з гэтай нагоды ўзмоцнілі недавер да Расеі. Бачна, што, нягледзячы на ўсе доказы, прэзідэнт Расеі можа нахабна глядзець у вочы, пасміхацца і хлусіць. Гэта ўплывае на ацэнкі ў тым ліку і смаленскай трагедыі.

**«НН»: Як з адлегласці ў пяць гадоў успрымаецца роля прэзідэнта Леха Качыньскага ў гісторыі Польшчы?**

**АП:** Гэта быў адзін з найлепшых прэзідэнтаў Польшчы. У Польшчы рэгулярна праводзяцца апытанні на гэты конт. Трыдцыйна найлепшым больш за 50% палякаў лічаць Аляксандра Кваснеўскага, які быў прэзідэнтам дзве кадэнцыі, ад 1995 да 2005 года. Гэта паказвае, што палякі чакаюць ад прэзідэнта, каб ён быў па-над партыйнымі спрэчкамі і быў такім спакойным кіраўніком, які б казаў правільныя словы. Другое месца таксама традыцыйна займае Качыньскі. Яго найлепшым прэзідэнтам лічаць ад дваццаці да трыццаці працэнтаў. Гэтыя вынікі нязменныя ўжо шмат гадоў. Цікава, што Качыньскі і Кваснеўскі — гэта абсалютна супрацьлеглыя палітыкі з абсалютна супрацьлеглым стылем кіравання. Качыньскаму даводзілася кіраваць ва ўмовах вострага палітычнага канфлікту з урадам. І ўвогуле, ён быў цвёрдым палітыкам, часта бескампрамісным. Таму сёння ў грамадстве ёсць гарачыя ягоныя прыхільнікі і ёсць таксама гарачыя крытыкі. Але гэта перш за ўсё тычыцца ўнутранай палітыкі, ягоная замежная палітыка, ягоная ацэнка Расеі — яны сёння не выклікаюць дыскусіі, тут большасць грамадства прызнае яго рацыю.

**«НН»: Прагназавалася, што гэтая трагедыя паспрые прымірэнню Польшчы і Расіі. Але нацягнутасць у адносінах так і не была знятая.**

**АП:** Мне і тады, у 2010 годзе, падаваўся наіўным разлік на тое, што гэта пачатак нейкага прымірэння. Расея выкарыстала смаленскую трагедыю, каб стварыць уражанне, умоўна можам назваць гэта «паказаць чалавечы твар». Але сёння зразумела, што смаленская трагедыя працягвае выкарыстоўвацца Расеяй, каб весці сваю гульню ў Польшчы. Чаго варты адзін толькі факт, што абломкі прэзідэнцкага самалёта і надалей застаюцца ў Расеі, яна іх так і не перадала Польшчы. Калі немагчыма забраць рэшткі самалёта, то пра якія добрыя адносіны ў прынцыпе можна размаўляць?

СМ

**Жалобныя мерапрыемствы**

З нагоды 5-й гадавіны катастрофы самалёта Ту-154М пройдуць у Расіі і Польшчы. У Смаленск, каб узяць удзел ва ўрачыстасці, прыбудзе ўрадавая дэлегацыя Польшчы на чале з шэфам Канцылярыі прэм'ер-міністра Яцкам Ціхоцкім. У яе складзе будуць міністр культуры, прадстаўнікі Канцылярыі прэзідэнта, Сейма і Сената, родныя ахвяраў катастрофы. Дэлегацыя аддасць таксама даніну памяці ахвярам Катынскіх расстрэлаў на Польскім вайсковым цвінтары ў Катыні. Цэнтральныя жалобныя ўрачыстасці з нагоды 5-х угодкаў катастрофы адбудуцца раніцай 10 красавіка на Павянзкоўскім цвінтары ў Варшаве. Жалобная імша будзе адпраўленая ў храме Боскага Провіду аб 11-й.

# Як міліцэйскага начальніка абвінавацілі ў тым, што «нагрэў» родную міліцыю

У Мінску **судзяць палкоўніка** з Гомеля.



Перад судом паўстаў былы намеснік старшыні — начальнік упраўлення фінансаў і тылу УУС Гомельскага аблвыканкама Сяргей Зайцаў. Яго арыштавалі 1 ліпеня 2014. Абвінавацілі ў злоўжыванні ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі. Па версіі абвінавачання, Зайцаў заключыў дамову з будаўнічай фірмай на рамонт Добрушскага РАУСа па завышанай цане. А грошы дасталіся фірме, сузаснавальніцай якой з'яўляецца яго маці.

### «Перадаверыўся людзям...»

Палкоўніку Сяргею Зайцаву 47 гадоў. Разведзены. У органах служыць з 1994 года. На пасаду намесніка начальніка абласной міліцыі прызначаны ў красавіку 2008.

Патрэба ў рамонце будынка Добрушскага РАУСа, у якім знаходзіцца аддзел па грамадзянстве і міграцыі, была. «У вельмі жахлівым стане знаходзілася памяшканне: падлога правальвалася», — тлумачыў Зайцаў.

Але працэдуру не правялі належным чынам. Конкурсная камісія мусіць атрымаць не менш за тры прапановы. А ў Добрушы выкананне замовы аддалі адразу канкрэтнай фірме — групе кампаній «Інтэрманаліт».

У дамове паміж аблвыканкамам і «Інтэрманаліт» фігуравала сума — 253 мільёны рублёў. Але пасля заключылі дадатковае пагадненне, і сума ўзрасла. У выніку УУС нанесена шкода — 68 мільёнаў рублёў. Эксперты палічылі, што агульная сума завышана наўмысна.

Зайцаў спасылаецца на тое, што нічога не разумее ў будаўніцтве, таму падпісваў усе дакументы пасля таго, як іх падпішуць іншыя.

«Мая віна ў тым, што перадаверыўся сваім падначаленым. Але аб'ём работы такі быў, што трэба было кантраляваць усю вобласць, і пераправяраць усю гэтую справу ў мяне не было магчымасці. Мая віна ў тым, што недастаткова кантраляваў і недапраўляў падначаленых».

Былы міліцэйскі начальнік расказаў на судзе, што на момант падпісання дамовы з «Інтэрманалітам» не ведаў пра датычнасць маці да фірмы. Даведаўся ж нібыта выпадкова: «Убачыў у мамы ліст з раённага суда, што арганізацыя камусьці вінная грошы. Яна сказала: «Вось папрасілі мяне паўдзельнічаць у якасці сузаснавальніка».

### 500 тысяч шкоды

Іншы эпізод, па якім судзяць Зайцава, тычыцца рамонту яго «Мазды 3» у 2011 годзе. Машыну прывезлі з ЗША бітай. Адзін з падначаленых, Ч., параіў звярнуцца да аўтаслесара УУС Сінянцова, які дома займаецца рамонтам. Маўляў, будзе танней. Ч. адагнаў машыну і ўзяў $400 для рамонтніка.

«Пачалі хадзіць чуткі, што мяне здымуць з-за маёй машыны... Я стаў аналізаваць, адкуль гэтая тэма магла ўзнікнуць. У той час я ляжаў у бальніцы. Баяўся, што Ч. рамантаваў машыну на тэрыторыі аўтагаспадаркі УУС. Паехаў да Сінянцова. Ён сказаў, што дома рамантаваў, але ў працоўны час. «Ч. так сказаў». Высветлілася, што Сінянцоў за працу атрымаў толькі 100 тысяч», — расказаў Зайцаў.

Супрацоўнік аўтагаспадаркі УУС не менш за тыдзень займаўся машынай міліцэйскага начальніка ў сваім гаражы ў працоўны час. А заробак на працы атрымаў поўны: сума шкоды ацэнена ў 550 тысяч рублёў. Па версіі абвінавачання, Зайцаў загадаў усё правесці праз бухгалтэрыю.

### «Абгаворыць альбо сам сядзе»

Палкоўнік сваю віну не прызнае. Кажа, што яго маглі абгаварыць для таго, каб пазбегнуць адказнасці. У выпадку з рамонтам будынка РАУСа, намеснік, які курыраваў гэта пытанне, у рэальнасці не паспяваў зрабіць усё па інструкцыі і падрыхтаваў фіктыўныя дакументы. «Думаю, яму [намесніку] прапанавалі: альбо гаворыць на мяне, альбо сам сядзе ў турму». А ў выпадку з машынай схема магла быць зроблена наўмысна: у выпадку, калі «я стану ўпоперак дарогі, каб мяне агаварыць, ачарніць. І вось цяпер я знаходжуся пад арыштам».

Палкоўніку пагражае да 10 гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці.

**Сяргей Макарэвіч**

**Хацелі ўцягнуць начальніка міліцыі?**

У верасні 2014 у Гомельскай абласной міліцыі памянялі начальніка. У крэсла генерал-маёра Валерыя Палішчука пасадзілі палкоўніка Уладзіміра Захарчука.

Прычына адстаўкі Палішчука не называлася. Але такое паніжэнне, як можна меркаваць, было звязана з крымінальнымі справамі ва УУС. Летась быў затрыманы, а ў студзені 2015 асуджаны да 7 гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці былы намеснік Палішчука Вячаслаў Іваненка. Яго абвінавацілі ў атрыманні хабару і махлярстве.

Але праз тыдзень пасля адстаўкі міністр унутраных спраў прызначыў Палішчука начальнікам Магілёўскага інстытута МУС.

На судзе Сяргей Зайцаў заявіў, што ў СІЗА КДБ у яго прасілі даць паказанні супраць начальніка.

# Пакаралі, але не ўсіх



TUT.BY

**Несцер за небяспечную язду адправіцца ў калонію-пасяленне.**

Асудзілі кіроўцу, праз якога **ў аварыі загінулі дзве дзяўчыны**.

На сем гадоў у калонію-пасяленне адправіцца 18-гадовы Несцер. А пасля яшчэ пяць гадоў будзе пазбаўлены правоў кіроўцы. Але колькасць вінаватых у аварыі можа павялічыцца.

Здарэнне адбылося 7 лістапада ў Мінску. Кампанія на «Доджы» ўрэзалася ў ліхтар: 16-гадовая школьніца Дарына загінула на месцы, яе 17-гадовая сяброўка Ганна сканала ў бальніцы. Лізавета ж атрымала сур'ёзныя траўмы. Прычына — кіроўца не даў рады кіраванню. Ён сеў за руль магутнага «Доджа» (з рухавіком 5,7 літра) праз тры месяцы пасля атрымання правоў. Машына ў дадатак аказалася няспраўнай.

У машыне ехалі пяцёра: Несцер, 17-гадовы Мікіта і дзяўчаты. Мікіта ўзяў аўто напракат за $20 і дзве бутэлькі віскі. Хлопец хацеў пахваліцца перад дзяўчатамі, маўляў, хутка гэты «Додж» купіць (сустракаўся з Ганнай). Але сам за руль у выхадны дзень не асмеліўся сесці: баяўся, што ў горадзе шмат даішнікаў.

Напярэдадні кампанія адпачывала ў Дарыны. А раніцай узяліся адвезці школьніцу да рэпетытара. Па дарозе ўсё і здарылася. На скрыжаванні каля вуліцы Ванеева Несцер прыбавіў газу на міргаючае чырвонае святло святлафора. Але машыну пачало «вадзіць». Спыніць магутнае аўто малады кіроўца ўжо не здолеў. На судзе агучылі раздрукоўкі з GPS-датчыка: перавышаў хуткасць і да аварыі (да 84,7 км/г), і ў момант здарэння (да 73,8 км/г).

25-гадовы Максім, уласнік «Доджа», на судзе адмаўляў, што за грошы здаваў аўто — даваў «проста пакатацца». Перад трагедыяй ён пісаў на інтэрнэт-форумах пра няспраўнасці тармазной сістэмы і пытаўся парады па рамонце. А на судзе заявіў адваротнае: машына была спраўная, а пра тармазную сістэму пытаўся выключна з гіпатэтычнага пункту гледжання.

Бацькі загінулых дзяўчат і Лізавета, якая пацярпела ў аварыі, заявілі пазоў на кампенсацыю маральнай шкоды на агульную суму 3,45 мільярда рублёў — да кіроўцы «Доджа» і ўласніка машыны. Суд задаволіў часткова: па 150 мільёнаў рублёў. Кватэру Несцера і «Додж» Максіма канфіскавалі.

Суд таксама накіраваў матэрыялы для праверкі і рашэнне пытання пра заведзенне крымінальнай справы ў адносінах да Максіма за дачу заведама ілжывых паказанняў.

**Паводле Tut.by**

# Не дасядзеў

Экс-намесніка міністра ўнутраных спраў **Полудня вызвалілі датэрмінова**.

«Ён цяпер на гародзе працуе», — адказаў на тэлефанаванне сын Яўгена Полудня, калі папрасілі паклікаць тату. Ён мае прыватны дом у Мінску. Але былы чыноўнік не захацеў размаўляць і пазней: «Ніякіх нікому каментароў. Усё, дзякуй, да пабачэння».

Яўген Полудзень быў прызнаны вінаватым у злоўжыванні і перавышэнні ўлады. Яго таксама вінавацілі ў атрыманні хабару, але па гэтым пункце апраўдалі. За краты міліцэйскі начальнік адправіўся на 3,5 года.

Арыштавалі Яўгена Полудня 8 снежня 2011. І выйсці ён мусіў у чэрвені 2015. Знайшлася падстава для датэрміновага вызвалення.

53-гадовы Полудзень нарадзіўся ў Гродзенскай вобласці. Дайшоў да пасады намесніка кіраўніка МУС—начальніка міліцыі грамадскай бяспекі (2009—2011). Яго пазбавілі звання палкоўніка міліцыі.



**СМ**

### Сціслa

**Пяць гадоў гвалтаваў дачку**

45-гадовы гарадзенец пачаў гвалтаваць дзяўчынку, калі ёй было 12 гадоў. Ён пагражаў дзіцяці, што заб'е маці, калі яна камунебудзь раскажа. Затрымалі яго на мінулым тыдні. Сям'я характарызавалася як станоўчая.

**19 чалавек і $2 мільёны**

КДБ затрымаў 19 супрацоўнікаў, у тым ліку былых, Ашмянскай мытні: арганізавалі, паводле следства, «шырокамаштабную схему ўхілення ад выплаты мытаў». За хабары ажыццяўлялі бесперашкодны пропуск буйных партый розных тавараў цераз мяжу ў пункце пропуску «Каменны Лог». Хабары складалі ад $250 да $3000. Адзін з удзельнікаў злачыннай групы за штомесячную ўзнагароду ў $1000 папярэджваў аб праверках, запланаваных мытным камітэтам. Па месцы жыхарства фігурантаў канфіскавана больш як $2,2 мільёна.

**Удзельніка выбараў-2010 асудзілі да турмы**

У Віцебску на шэсць з паловай гадоў калоніі асуджаны ўдзельнік прэзідэнцкай кампаніі 2010 года Сяргей Рыжоў. Яго судзілі за дзеянні сэксуальнага характару ў дачыненні да мужчыны без пэўнага месца жыхарства, здзейсненыя ў медвыцвярэзніку.

**КМ**

